


# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

28 КРАСАВІКА 2000г. № 17/4049 КОШТ 80 РУБ.



## СЛОВА ДОКТАРА САЙКОВА

**Дзмітрый САЙКОЎ: "У заядлага курца ці алкаголіка, напрыклад, у мозгу фарміруецца стэрэатып паводзін, навязлівая дамінанта, якой чалавек па-рабску падпарадкоўваецца. Цыгарэта ці пляшка гарэлкі аказваюцца на вяршыні іерархіі каштоўнасцей. Задача ў тым, каб памяняць яе, замяніць дамінантай здаровай".**

**5**

## З КНІГІ "ШЛЯХ НА ТУРАЎ"

**Вершы Паўла ШРУБА**

**8**

## У НЯДЗЕЛЬКУ ПАРАНЕНЬКУ...

**Урывак з гістарычнай драмы Алеся ПЕТРАШКЕВІЧА**

**9, 12**

## МАСТАК, УЛЮБЁНЫ Ў МІНСК

**Май ДАНЦЫГ: "Мой рэалізм — не рэалізм перасоўнікаў. Я вучыўся і ў фавістаў, экспрэсіяністаў... Рэалізм не павінен успрымацца адназначна".**

**10—11**

## ДУДКА ГРАЕ — ЁН ЖЫВЫ...

**Да 100-годдзя з дня смерці Францішка БАГУШЭВІЧА**

**15**


### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе 2000 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **300 рублёў**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **930 рублёў**.*

**Наш індэкс — 63856.**

*...І гарэлі свечкі ў праваслаўным Храме,*
*І анёл, як вечнасць, пралятаў над намі,*
*І было нам светла ў гэты дзень вясновы,*
*І ў душы для Бога кожны цепліў словы...*

**Фота А. ПРУПАСА**



# КОЛА ДЗЁН

***Праз два дні — дзень 1 мая, па-ранейшаму пазначаны ў календары чырвоным лістком. Але ўжо не як Дзень міжнароднай салідарнасці працоўных, да якога ва ўсіх газетах публікаваліся спецыяльныя партыйныя заклікі, а сарамліва перайменаваны сённяшнімі ўладамі ў — Свята працы. Логікі ў гэтай замене мала, як мала яе, бадай, ва ўсім, што робіцца ў нас зараз. Свята працы — якой? Вольнай, на самога сябе? Ды не, здаецца. Прымусовай, паднявольнай? Яна не можа быць святочнай. Значыць, свята ўсё той жа, колішняй, “калектыўнай працы дзеля агульнага дабрабыту”? Дык жа дзе той дабрабыт? Нас не адпускае мінуўшчына. Правільней, мы самі яе не адпускаем. Быццам парываемся ў новае жыццё — услед за былымі савецкімі “братамі і сёстрамі”, вось і свята першамайскае перайменавалі, але тут жа хапаемся за старое, звычнае, настальгічнае. Уражанне нават такое, што ўсё яно актыўна, настойліва вяртаецца, ажыўляецца, усталёўваецца.***

### АДРЫЎ ТЫДНЯ

“Уж сколько раз твердили миру” аб тым, каб нейкім чынам наблізіць заробкі бюджэтнікаў хоць бы да сярэдніх заробкаў работнікаў прамысловасці, ды, на жаль, “суждены нам благие порывы”. Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, у сакавіку адрыў бюджэтнікаў ад работнікаў рэальнага сектара эканомікі не зменшыўся, а пабольшаў. Па заробках, вядома. Калі, скажам, сярэдні заробак у прамысловасці за сакавік узрос на 11,5 працэнта і склаў 58167 рублі, дык у работнікаў адукацыі рост заробку склаў 4,1 працэнта і яго сярэдняя велічыня “дасягнула” тут усяго 35282 рублі, а ў работнікаў культуры — 30355 рублёў. Каментарыі тут, як кажуць, не патрэбныя...

### ПАДСВЕТКА ТЫДНЯ

Яшчэ ў пачатку сакавіка друк паведаміў пра трагічны выпадак, які адбыўся ў Віцебску: там наклала на сябе рукі 47-гадовая настаўніца пачатковых класаў. Факт сам па сабе сумны і горкі. Яшчэ больш горычы дадавалі тыя акалічнасці, што ў жанчыны не было сям'і, ніколі не было кватэры, жыла ў інтэрнаце, маючы не пакой, а “ложак-месца”. Перад смерцю жанчына расплацілася з даўгамі, здала кнігі ў бібліятэку, нанесла знаёмым апошнія візіты, прыйшла дадому, выпіла воцатную эсенцыю, ускрыла вены і памерла... А вось зараз з'явілася такая падсветка гэтага вусцішнага факта: летась на Віцебшчыне скончылі самагубствам 670 чалавек! Што ж гэта з намі робіцца, спадарове?

### АКТЫЎНАСЦЬ ТЫДНЯ

З чым, шаноўныя чытачы, спалучаецца гэтая намінацыя — актыўнасць? Вы не памыляецеся, вядома ж — з цэнамі. Што яшчэ ў нас можа актыўнічаць, імкліва расці? Толькі цэны. За першыя два тыдні красавіка, як стала вядома, яны павялічыліся на 3,6 працэнта. А з пачатку года цэны на Беларусі выраслі на 36,6 працэнта. Пасля гэтага застаецца хіба толькі горка ўсміхнуцца, згадаўшы, што нам шмат разоў і цвёрда абяцалі: інфляцыя не перавысіць 2-3 працэнтаў у месяц...

### ДАМА ТЫДНЯ

Як вядома, 22 красавіка па традыцыі (савецкай, само сабою) у краіне прайшоў суботнік. Па той жа традыцыі, праз колькі дзён падводзяцца і вынікі “свята працы”. Словы для гэтага адшукваюцца самыя ўзнёслыя — зноў жа, у адпаведнасці з традыцыяй. Але такога, бадай, нават і раней не сустракалася. Вось як “красіва” распявала пра суботнік “Белорусская нива” ў нумары за 25 красавіка: “Прыбраная ў вясеннія строі першай зялёнай лістоты стаража́жытная і вечна маладая сталіца рэспублікі набыла рысы вялікасвецкай дамы, якая збіраецца на баль. А вось райцэнтры, гарадскія пасёлкі, вялікія і малыя вёсачкі здаваліся падобнымі на зграбных беларускіх дзяўчат, старанна вымытых раніцняй расою”. Памры, Гаўрыла, а лепш не скажаш!

### ПАДТРЫМКА ТЫДНЯ

“Калі беларускія Узброеныя Сілы па нейкіх прычынах будуць мець патрэбу ў падтрымцы адпаведных ваенных структур Расіі, то гэтая падтрымка будзе аказана. Пра гэта заявіў 21 красавіка Уладзімір Пуцін у ходзе сустрэчы з журналістамі ў Крамлі”. Вось такая інфармацыя на старонках адной з афіцыйных газет. Інфармацыя калі не шакіруе, дык, прынамсі, здзіўляе.

### НЕПАМЫСНАСЦЬ ТЫДНЯ

“Пройдзе некалькі месяцаў і жыхары Расіі і Беларусі могуць стаць грамадзянамі адзінай Саюзнай дзяржавы. Аб'ядноўца дзве суверэнныя краіны, створаць наднацыянальныя органы, ад дзейнасці якіх у многім будзе залежыць лёс амаль 160 мільёнаў чалавек, што жывуць у Вялікай і Белай Русі...” Такое ці нешта такое друкуецца ў многіх газетах, паўтараецца шмат разоў з экранаў тэлебачання і па радыё з дня ў дзень. Быццам так і трэба. Быццам гэта даўно і канчаткова вырашана. А — каму трэба? Кім і калі вырашана? Адкуль наогул узнікла гэтая “Саюзная дзяржава”? Гаворка ж ішла ўсяго толькі пра Саюз дзяржаў.

### ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

Стала вядома, што Нацыянальны цэнтр прававой інфармацыі краіны выпусціў афіцыйнае выданне “Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь”, прыняты ПП НС 11 лютага і зарэгістраваны 15 лютага ў Нацыянальным рэестры прававых актаў. Міжволі ўзнікае пытанне: дык дзеля чаго тады ладзіцца славуты дыялог грамадскіх рухаў і партый? Хіба там будзе разглядацца і абмяркоўвацца нейкі іншы выбарчы кодэкс?

### ПРАЕЗД ТЫДНЯ

З 1 па 15 мая ўдзельнікі і інваліды Вялікай Айчыннай вайны атрымалі права на бясплатны праезд па тэрыторыі Беларусі на аўтобусах і ў вагонах цягнікоў. Старыя, вядома, удзячны за гэтую ласку, хоць, канешне, далёка не ўсе яны скарыстаюцца ёю: восем і больш дзесяткаў гадоў за плячыма ўжо мала каго з іх пускаюць нават і ў блізкую дарогу...

### КАДРЫ ТЫДНЯ

Урад краіны прыняў спецыяльную пастанову аб мэтавай падрыхтоўцы спецыялістаў для вёскі. Чым яна выклікана? Катастрафічнай сітуацыяй з кадрамі ў сельскагаспадарчай вытворчасці. За апошнія 10 гадоў вёску пакінулі 11 тысяч спецыялістаў, паўсюль свабодныя вакансіі галоўных інжынераў, аграномаў, заатэхнікаў, ветурачоў. Забяспечанасць спецыялістамі з вышэйшай адукацыяй — 35 працэнтаў, 15-20 працэнтаў складае дэфіцыт работнікаў масавых прафесій. У выніку і нарадзілася згаданая пастанова. Але ці вырашыць яна праблему? Прычыны кадравай сітуацыі ў вёсцы куды глыбейшыя, і ўгаворамі маладых выпускнікоў прыехаць у вёску на працу справу не паправіш. Прыгадайма: колькі такіх пастаноў прымалася за савецкім часам, а — вынікі? Вось яны: вёска па-ранейшаму пусцее...

### ЗЛАДЗЕІ ТЫДНЯ

Факт — звычайны, будзённы: цягам доўгага часу зладзеі кралі аўтамабілі, разбіралі іх на запчасткі і прадавалі за “баксы”. Адметнасць хіба толькі ў тым, што зладзеямі былі студэнты Брэсцкага універсітэта: два трэцякурснікі і адзін чацвёртакурснік. Хоць, зрэшты, ці варта здзіўляцца? Яны ж таксама людзі, ім, як кажуць, таксама есці хочацца. Але, але, мы ўжо і гэтак сёння разважаем...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

“Вяртанне з выраю”, — так называецца доўгатэрміновая акцыя, прыняць удзел у якой Саюз пісьменнікаў запрашае ўсю творчую інтэлігенцыю краіны. Сутнасць яе ў тым, што творцы аказваюць дабрадзейную дапамогу ў правядзенні культурна-асветных мерапрыемстваў у роднай вёсцы, пасёлку, горадзе, бяруць своеасаблівае “шэфства” над мясцінамі, дзе нарадзіліся.

Земляцкія паездкі пісьменнікаў, спевакоў, мастакоў, кампазітараў, людзей іншых творчых прафесій, сустрэчы іх з мясцовымі кіраўнікамі, краязнаўцамі, удзельнікамі літаб'яднанняў павінны мець канчатковы вынік — стварэнне своеасаблівай анталогіі “Радзімазнаўства” — “Радаводныя вытокі”.

Невыпадкова, што ідэйным арганізатарам праекта выступіў паэт Сяргей Панізнік. Менавіта ён, як і Алесь Карлюкевіч, Вячаслаў Рагойша, Міхась Скобла, Уладзімір Арлоў, Генрых Далідовіч, Яўген Хвалей, падтрымлівае самыя цесныя стасункі з малой радзімай, часты госць у працоўных калектывах, школах роднага краю.

Зараз у рамках праекта рыхтуюцца паездкі земляцкоў у Полацк, Наваградак, Капыль, Оршу.

●

55-годдзю перамогі над фашызмам была прысвечана паездка ў адну з часцей Беларускай пагранічнай акругі групы пісьменнікаў у складзе Анатоля Сульянава, Уладзіміра Глушакова, Навума Гальпяровіча, Яўгена Каршукова. Госці азнаёміліся з жыццём і бытам пагранічнікаў, выступілі перад асабовым саставам. Паездка атрымалася цікавай і карыснай.

●

Чарговы ўрок у бібліятэцы Саюза пісьменнікаў быў прысвечаны творчасці літаратуразнаўцы, перакладчыка Уладзіміра Мархеля. Пра творчы і жыццёвы шлях Уладзіміра Іосіфавіча для вучняў сёмай мінскай гімназіі расказвалі Міхась Кенька, Вячаслаў Чамярыцкі, Любоў Уладыкоўская-Канаплянік. Выступіў і сам юбіляр.

●

У семінары намеснікаў дырэктараў па выхаваўчай рабоце раёна па тэме “Маральна-эстэтычнае выхаванне ва ўмовах базавай школы” прыняў удзел літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў Алесь Масарэнка. Ён правёў адкрытае пасяджэнне паэтычнага клуба “Каласок”, дзе юныя літаратары з Міншчыны знаёмілі са сваімі першымі паэтычнымі спробамі. А. Масарэнка, які вядзе пастаяннадзеючы семінар “Літаратар” у сталічным Доме літаратара, вызначыў лепшых, якіх запрасіў удзельнічаць у сваім семінары, адзначыўшы высокі ўзровень падрыхтоўкі школьнікаў, добрае валоданне імі роднай беларускай мовай.

**Н. К.**



# Літэкспрэс Еўропа-2000

Міжнародны праект “Літэкспрэс Еўропа-2000” — адна з буйнейшых грамадскіх і культурных падзей, прымеркаваных да сустрэчы новага тысячагоддзя.

2 чэрвеня 100 літаратараў з 43 краін Еўропы ў Лісабоне (Партугалія) адправяцца на шэсць тыдняў у вялікае падарожжа па маршруце легендарнага Паўночна-Паўднёвага экспрэса. Праз Іспанію, Францыю, Бельгію, Германію, Польшчу, Літву, Латвію, Эстонію, Расію, Беларусь пісьменнікі 17 ліпеня трапяць на ўрачысты фінал у Берлін. На маршруце “Літаратурнага экспрэса” ў 20 гарадах пройдуць публічныя чытанні, дыскусіі, абмеркаванні праблем агульнаеўрапейскай будучыні, моўнай і літаратурнай разнастайнасці нашага аднаго на ўсіх мацерыка.

9 ліпеня вялікае тэатралізаванае купальскае свята пад дэвізам “Беларусь праз межы і стагоддзі” пройдзе на радзіме Янкі Купалы ў Вязынцы, куды будуць запрошаны і нашы пісьменнікі.

10 ліпеня літаратурныя сустрэчы, дыспуты, семінары на тэму “Літаратура Еўропы запрашае” пройдуць у Нацыянальнай бібліятэцы, Музеі тэатральнай і музычнай культуры, у музеях Янкі Купалы і Якуба Коласа, у бібліятэках імя А. Пушкіна, Я. Купалы, у бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук. З раніцы да абеду разам з замежнымі гасцямі будуць калектывы рэдакцый газет, часопісаў, выдавецтваў, а таксама аўтары выданняў (“Полымя”, “Крыніца”, “ЛіМ”, “Культура”, “Маладосць” і інш.).

Вечарам таго ж дня ў вялікай зале Дома літаратара пройдзе заключная сустрэча гасцей з нашымі пісьменнікамі і кнігавыдаўцамі, якія прадставяць навінкі перакладзеных на беларускую мову твораў замежных аўтараў. Асобная тэма дыскусій у Доме літаратара — “Чарнобыль — боль Беларусі”.

Нашы пісьменнікі будуць весці бяседы з паэтамі і празаікамі з Албаніі, Партугаліі, Балгарыі, Эстоніі, Грузіі, Грэцыі, Вялікабрытаніі, Югаславіі, Харватыі, Малдавіі, Нідэрландаў, Польшчы, Румыніі, Швейцарыі, Славакіі, Славеніі, Чэхіі, Турцыі, Украіны, Ісландыі, Расіі, Венгрыі, Кіпра.

Створаны Арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні міжнароднага праекта (старшыня — намеснік міністра культуры Валерый Гедройц). Нацыянальным партнёрам (каардынатарам ад Беларусі) праце Жана Дапкюнас — дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Многія важныя абавязкі ўскладзены і на Саюз беларускіх пісьменнікаў (Вольга Іпатава — у складзе Аргкамітэта).

Сваім актыўным удзелам у гэтым унікальным праекце (а ён знаходзіцца пад патранажам Еўрапейскай рады, Еўрапейскай камісіі ЮНЕСКА і інш.) мы зможам засведчыць, што беларуская тысячагадовая літаратура валодае не меншым патэнцыялам, чым іншыя еўрапейскія літаратуры. З нацыянальных духоўных скарбніц нам ёсць што перадаць чалавецтву і ў новым тысячагоддзі.

Ажыццяўленне праекта ўмацуе шляхі Беларусі ў Еўропу. Наш пісьменніцкі клопат і творчая чыннасць дапамога заняць Бацькаўшчыне “свой пачэсны пасад між народамі”.

**Сяргей ПАНІЗНІК,**
**кансультант Саюза беларускіх пісьменнікаў**

# Грамадскі савет па праблемах культуры і мастацтва

З мэтай больш шырокага ўдзелу творчай інтэлігенцыі ў правядзенні дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры і мастацтва Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Стварыць Грамадскі савет па праблемах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

2. Зацвердзіць прыкладаемы састаў Грамадскага савета па праблемах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

3. Міністэрству культуры вырашыць пытанне аб выдзяленні ў Палацы Рэспублікі памяшкання для работы Грамадскага савета па праблемах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

4. Упраўленню сацыяльна-культурнай палітыкі Апарата Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь разам з кіраўніцтвам Грамадскага савета ў месячны тэрмін падрыхтаваць праект палажэння аб Грамадскім савеце па праблемах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь**
**У. ЯРМОШЫН**

*21 красавіка 2000 г., N 556 г. Мінск*

**У састаў Грамадскага савета па праблемах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь увайшлі вядомыя дзеячы культуры і мастацтва:**

С. А. Картэс, А. П. Кавалёў, Р. Б. Смольскі, М. Я. Фінберг, Н. А. Траян, Г. М. Алейнік, В. М. Аненкаў, З. В. Белахвосцік, Р. А. Баравікова, А. М. Ваніцкі, В. С. Відлога, А. М. Вераб'ёў, В. І. Гаявая, Н. В. Гайда, У. В. Гасцюхін, Я. Д. Грыгаровіч, Л. П. Грынько, У. М. Гром, В. А. Грамыка, Л. М. Давідовіч, С. П. Данілюк, М. П. Дрынеўскі, Л. С. Екель, В. М. Елізар'еў, М. М. Яроменка, Л. Б. Яфімава, А. В. Яфрэмаў, В. П. Жураўлёў, М. Г. Захарэвіч, Л. Л. Іваноў, М. А. Казінец, А. В. Красінскі, У. М. Кузменка, І. М. Лучанок, Л. А. Максімовіч, Л. А. Манакава, Г. В. Марчук, Ф. А. Мазоль, Г. Р. Нячаева, Б. У. Нічкоў, І. У. Алоўнікаў, А. М. Піязева, Я. К. Паплаўская, Г. Г. Паплаўскі, У. І. Пракапцоў, М. М. Пташук, В. П. Раінчык, У. П. Рылатка, А. Б. Спірыдовіч, А. В. Сцяпанаў, Б. В. Стральцоў, А. Б. Цівуноў, К. Ю. Фадзеева, Ф. І. Шмакаў, С. В. Юдо, Р. І. Янкоўскі, А. І. Ярмоленка.



# Шлях да сябе

Дзесяткі тысяч мінчан сабраліся пазаўчора на сталічным пляцы Якуба Коласа. Менавіта адсюль і быў распачаты чарговы “Чарнобыльскі шлях”. Шлях, які на думку яго арганізатараў, урэшце павінен абудзіць нацыянальную душу і нацыянальнае сумленне. Павінен згуртаваць тых, каму неабыякавы лёс дзяцей і ўнукаў... Чатырнаццаць год прайшло з моманту ядзернай катастрофы. Чатырнаццаць год наступствы бяды нявечаць Бацькаўшчыну. Чатырнаццаць год мы прызвычайваемся да думкі, што натоўп заўжды гіне, а народ і нацыя — жывуць... Час не лечыць. Ён вымушае змагацца з болем. Вымушае супрацьстаяць мутацыі душы і сумлення. Таму кожны “Чарнобыльскі шлях” — гэта шлях да сябе, шлях да Беларусі, якую мы запознена адраджаем. Хтосьці скажа: заполітызаваная акцыя. Ды не, звычайнае жаданне застацца чалавекам, спакойна і заможна жыць на Беларусі, быць сацыяльна абароненым ад уздзеяння стронцыю, цэзію і абыякавасці...

Сёлетні “Шлях” прайшоў годна і спакойна. На плошчы Бангалор сабраліся шматлікія прадстаўнікі грамадскіх і палітычных партый і арганізацый, студэнты, пенсіянеры, замежныя госці. Гаварылі пра тое, пра што немагчыма маўчаць.

**Наш кар.**

## "Сваю магутнасць пакажы ты свету..."



**У музеі Янкі Купалы адбылася першая з цыкла запланаваных літаратурных сустрэч з беларускімі пісьменнікамі-ўдзельнікамі міжнароднага праекта "Літаратурны экспрэс Еўропа-2000".**

**20 красавіка госцем Купалавага дома быў празаік Андрэй Федарэнка — лаўрэат літаратурнай, а таксама драматургічных прэмій і конкурсаў, аўтар некалькіх кніг апавяданняў і аповесцяў, творы якога перакладзены на англійскую, польскую, румынскую і рускую мовы.**

**Пасля ўступнага слова вядучага вечарыны пра творчасць празаіка расказала крытык Наталля Кузьміч. Паэт, бард Валеры Пазнякевіч праспяваў некалькі песень, а таксама сказаў колькі слоў пра Федарэнку як асобу, згадваючы цікавыя выпадкі з яго жыцця. Потым слова ўзяў сам пісьменнік, якому было зададзена шмат пытанняў, што тычыліся не толькі літаратуры.**

**Эдвард КАРБАНОВІЧ, ст. навуковы супрацоўнік музея Янкі Купалы**

*Фота Сяргея ЛУК'ЯНАВА*

## *Як Іанэска набыў беларускую прапіску*

**Сапраўднай тэатральнай падзеяй стала з'яўленне на сцэне Акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа эксперыментальнага спектакля "Крэслы" па п'есе класіка французскага авангарда Эдэна Іанэску, у якім занятыя заслужаныя артысты Беларусі Валянціна Петрачкова і Алесь Лабанок.**

**Рэжысёр спектакля Антон Грышкевіч — ужо даўно мае рэпутацыю наватара ў сучасным беларускім тэатры, і зараз уразіў публіку нешараговым падыходам да вядомай кожнаму аматару французскага сучаснага мастацтва п'есы. Нават захапіў ён неяк па-іншаму, чым гэта было раней, абапіраючыся не толькі на прыёмы авангарднай і мадэрновай рэжысуры, якія эпатуюць гледача і выклікаюць у яго паток стракатых і размаітых эмоцый, скіраваных да пафаснага абагульнення, а ўпершарадзь — на складаную кампазіцыю стасункаў паміж героямі. Грышкевіч звяртаецца да эмоцый чалавека і закранае струны яго самых інтымных перажыванняў. Відавочна, што на сёння Антон Грышкевіч адзін з нямногіх рэжысёраў тэатра, хто даследуе тонкі свет нашага духу і ўмее пераўвасобіць яго біярытмы на сцэне, тым самым прапануючы нам нешараговы погляд на рэчы. Ягоная эстэтыка — гэта не агульнае рэчышча вядомай нам з'явы, звязанай з паняццем "беларускі тэатр", а ўласны светапогляд на беларускую рэчаіснасць.**

**Па сутнасці, узяўшы за асноўную метафару славутыя крэслы (пазначаныя ў назве п'есы самім Іанэскам), рэжысёр імкнецца данесці да нас вобраз рэчаіснасці, у якой пад прыгожай знешняй абалонкай хаваецца часам звычайная пустэча і абыякавасць да навакольнага асяроддзя, дзе падманутаму чалавеку не застаецца нічога, акрамя зруйнаваных мараў.**

**Спектакль па п'есе вядомага французскага драматурга мае перспектыву доўгага жыцця на віцебскай драматычнай сцэне. Для Антона Грышкевіча гэта не першы вопыт пастаноўкі так званых мадэрновых п'ес на беларускай сцэне. "Цырк Шардан" па Хармсу, "Фрэкін Юлія" па Стрынбергу, а таксама містычныя фантазіі паводле Гогаля "Нічога, нічога... маўчанне" і ўдзел у пастаноўцы "Норы" па Ібсену на сцэне маскоўскага тэатра імя У. Маякоўскага сцвердзілі ў рэжысёры ўдумлівага філосафа з непадобным ні на кога творчым успрыманнем жыцця, усталяваным на падмурку густоўнай паэтычнасці і рэжысёрскага прафесіяналізму.**

**Многія дакараюць Грышкевіча ў тым, што ён, працуючы ў акадэмічным тэатры, зусім не ставіць беларускай драматургіі. Думаю, што ўсё яшчэ наперадзе. Зараз Грышкевіч захоплены рэпетыцыямі новай замежнай п'есы. Кажуць, гэта будзе зноў нешта нешараговае і неардынарнае, зрэшты, як і заўсёды бывае ў людзей яркіх, да ліку якіх адносіцца і наш наватар Антон Грышкевіч.**

**Ірма КАНЁК**

НАДЗЁННАЕ

# Каго хвалюе дэмаграфія?

***У Міжнародным адукацыйным цэнтры (IBB) адбылася прэзентацыя матэрыялаў Першага міжнароднага кангрэса "Дэмаграфічныя праблемы Беларусі". Сам кангрэс адбыўся вясной мінулага года. Яго асноўным ініцыятарам была грамадская арганізацыя "Міжнародная акадэмія экалогіі", а да ўдзелу запрашаліся ўсе жадаючыя.***

***З членам рэдакцыйнага савета, доктарам біялагічных навук, акадэмікам МАЭ А. МІКУЛІЧАМ размаўляе наш карэспандэнт.***

**— Перш дазвольце папытацца, Аляксей Ігнатавіч, чаму Міжнародная акадэмія экалагаў адчула неабходнасць заняцца дэмаграфіяй?**

— Таму што эколагі, па вызначэнні, людзі нераўнадушныя. І не сляпыя: бачаць, што ў нас адбываецца ў рэспубліцы — з генафондам, з сям'ёю ў горадзе і мужчынамі на сяле, з фізічным і духоўным здароўем людзей. Галоўным генератарам ідэі правядзення кангрэса стаў віцэ-прэзідэнт МАЭ, заслужаны дзеяч навукі М. Цяўлоўскі.

**— Якую ж дапамогу аказалі дзяржаўныя ўстановы ў падрыхтоўцы і правядзенні дэмаграфічнага кангрэса?**

— Калі коратка, то ніякую. Ні міністэрствы статыстыкі, аховы здароўя, па надзвычайных сітуацыях, ні прадстаўнікі Чарнобыльскага камітэта і Федэрацыі прафсаюзаў, будучы запрошанымі, не ўдзельнічалі. Затое прынялі ўдзел Беларускае аддзяленне Міжнароднай акадэміі геранталогіі, Беларускі дабрачынны фонд аховы жыцця, Беларуская асацыяцыя незалежных вучоных і вынаходнікаў, Беларускае згуртаванне па сацыяльнай абароне навукоўцаў "Асана" і іншыя. Калі гаворка ідзе пра захаванне беларусаў як этнасу, то спрычыніцца могуць усе зацікаўленыя — ад навукоўцаў да чыноўнікаў.

**— Наколькі ж цяжкая дэмаграфічная сітуацыя мае месца ў нашай краіне?**

— Перш за ўсё павінен адзначыць, што ў былой вялікай дзяржаве пытанні дэмаграфічнай палітыкі хутчэй толькі фіксаваліся, а не вывучаліся, і тым больш не абмяркоўваліся галосна. Што ж тычыцца Беларусі, то многія рэчы на сёння агульнавядомыя (хаця не становяцца ад гэтага менш трывожнымі). Маю на ўвазе перавагу смяротнасці над нараджальнасцю, зніжэнне рэпрадукцыйнай магчымасці пераважнай большасці сем'яў, пагаршэнне здароўя людзей у цэлым. Трэба зазначыць, што стан дэмаграфічных праблем на сяле і ў горадзе трэба разглядаць асобна. Фактычна па ўсіх параметрах, у тым ліку сацыяльна-псіхалагічных, медыкабіялагічных, экалагічных, маральна-этычных, паказчыкі значна адрозніваюцца і патрабуюць раздзельнага вывучэння. Вось канкрэтныя прыклады за 1998 год. Параўнаем горад-мегаполіс Мінск і дадзеныя па рэспубліцы ў цэлым. Так, на кожную 1000 жыхароў адпаведна нарадзілася 8 і 9, а памерла 9 і 14 чалавек, захварэлі на псіхічныя хваробы — 19,9 і 11,5, на хваробы нервовай сістэмы — 77,8 і 50,6 і г. д. Па названых паказчыках ёсць і свая геаграфія: найменшы спад натуральнага прыросту — у Заходнім Палессі (1,8), найбольшы (6,8) на Паазер'і. Упершыню захварэўшых найменей у Панямонні (617), найболей — у Цэнтральнай Беларусі (777). Вектар зменлівасці па злаякасных пухлінах нарастае з 2,8 на Захадзе Палесся да 3,2 на Усходзе. Па нервовых хваробах вектар нарастае ад Магілёўскай вобласці (30,3) да Гомельскай (65,3). Сумарныя каэфіцыенты нараджальнасці сярод сельскага насельніцтва ў паўтара разы перавышаюць такія сярод гарадскога. Лік народжаных у сярэднім за год на 1000 жанчын аказваецца максімальным на Брэстчыне (41), мінімальным на Віцебшчыне (33).

**— Ну, а больш падрабязныя звесткі — у матэрыялах Першага міжнароднага?**

— Так. Выдадзены яны з дапамогай Беларускай Праваслаўнай Царквы і Каталіцкай Царквы Беларусі. Саму кнігу можна заказаць непасрэдна ў выдавецтве па адрасе г. Мінск, вул. Багдановіча, 108, "Салярыс-плюс", т. 228-55-23.

**— Скажыце, ці быў практычны вынік у кангрэса, не лічачы выхаду ў свет яго дакументаў і абнародавання некаторых малапрыемных для сённяшняга кіраўніцтва звестак?**

— На жаль, не было. З-за фактычнага байкоту з боку дзяржаўных устаноў, якія валодаюць рэальнымі магчымасцямі змяніць сітуацыю да лепшага.

**— Як вы думаеце, Аляксей Ігнатавіч, чым можна вытлумачыць такое ігнараванне праблемы, маючай агульнанацыянальнае значэнне?**

— Думаю, што чыноўнікі "ад дэмаграфіі" разумеюць усю сур'ёзнасць становішча, але кожны адказвае за нейкі асобны ўчастак і, што называецца, сядзіць ціха. Навуковая і творчая інтэлігенцыя таксама замала ўвагі ўдзяляе праблеме далейшага выжывання беларускага народа. Вось чаму зараз распачынаецца падрыхтоўка другога міжнароднага форуму. Толькі дасканалае вывучэнне разбуральных працэсаў на горадзе і ў вёсцы дапаможа спрагназаваць жыццё нашых нашчадкаў.

**Гутарыла Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# Не нашкодзіць!

У Мар'інай Горцы — перамены. Не сказаць, каб істотныя, але ўсё ж перамены — тапанімічнага характару. Невялікая частка горада (тая, дзе размешчаны Мар'інагорскі сельскагаспадарчы тэхнікум, прыналежная яму гаспадарка, ці дакладней — цэнтральная сядзіба, адпаведна і дамы жыхароў навакольных вуліц) аддзялілася. Зараз — паводле рашэння сесіі Пухавіцкага райсавета — створана новае паселішча. Ініцыятыва, відавочна, ішла знізу — ад жыхароў мікраёна, якім раптоўна захацелася стаць вяскоўцамі. Што падштурхнула людзей з гарадской прапіскай на гэты крок? Пэўна, найперш тое, што вяскоўцы маюць пэўныя льготы матэрыяльнага, эканамічнага характару. Праўда, калі толкам разабрацца, то і не дужа вялікія. І ўсё ж больш як тысяча мар'інагорцаў сталі вяскоўцамі. Факт ёсць факт.

Безумоўна, узнікла пытанне з назвай фактычна новай адміністрацыйнай адзінкі. Адразу засведчым: назвалі паселішча (адміністрацыйны характар яго вызначылі наступным чынам: пасёлак) Мар'іна. Прагаласавалі на сесіі абсалютнай большасцю галасоў. Праўда, чаму на сесіі вызначыліся з назвай, а не шляхам правядзення агульнага сходу жыхароў адрынутага мікрараёна?..

Але ж пра Мар'іна... Пэўныя, досыць істотныя аргументы, каб даць паселішчу такую назву, ёсць. Вось і ў кнізе айца Льва Гарошкі "Святая Еўфрасіння-Прадстава, патронка Беларусі" ("Мастацкая літаратура", 1996) у нарысе "Цудатворныя іконы Божае маці на Беларусі" чытаем: "Мар'інагорская. Мясцовы пераказ кажа, што цяжкахвораму Ізыдару з в. Лядцы з'явілася Божая Маці, аздаравіла яго і загадала паставіць на недалёкай горцы крыж і царкву. Ізыдар выканаў загад і ў царкву прынёс ікону, намаляваную на палатне. Каля тае царквы ён пражыў да канца свайго жыцця. Там паўстаў пасёлак, які ў гонар Багародзіцы назвалі Мар'інай Горкай, потым выбудавана царква Успення Багародзіцы. Дня святкавання ікона не мае".

З Мар'інай Горкай, такім чынам, справа зразумелая. І тэхнікум вядомы як Мар'інагорскі болей як стагоддзе. Цяпер, як быццам, і яго назву мяняць трэба на Мар'інскі?..

Перайменаванне, як і дзяльба, — справа тонкая, далікатная. Збоку заўсёды ўмешвацца цяжка. Можна і памыліцца. Вядома, галоўным чынам у справе павінны разбірацца і да нечага, да пэўнай высновы прыходзіць самі мар'інагорцы, цяпер ужо мар'інцы. Але аргументы выказаць хацелася і збоку. На сесіі прагучала і прапанова наконт таго, каб назваць аддзеленую тэрыторыю Макава. Адразу варта заўважыць: за такую назву выказаўся толькі адзін голас...

Чаму Макава? У гонар Льва Савіча Макава. Хто гэта? Звесткі выкладаем толькі з энцыклапедыі. "Макаў Леў Савіч (1830, мяст. Мар'іна Горка Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер горад у Пухавіцкім раёне Мінскай вобл. — 27.2/11.3/1883), расійскі дзярж. дзеяч. Скончыў Пажскі корпус (1849). Служыў афіцэрам-уланам. З 1861 у Вільні, стацкі саветнік пры ген.-губернатарах У. Назімаве і М. Мураўёве, займаўся правядзеннем сялянскай рэформы 1861 у Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губ. Са жн. 1863 у МУС, удзельнічаў у далучэнні уніятаў да праваслаўя ў Царстве Польскім (1875). З 1876 таварыш (намеснік) міністра, з лют. 1878 — міністр унутр. спраў. Са жн. 1880 міністр пошт і тэлеграфа, адначасова — заг. дэпартамента духоўных спраў замежных веравызнанняў. З 1881 чл. Дзярж. Савета. Скончыў самагубствам у сувязі з раскрытымі казёнными крадзяжамі..."

Здавалася б, нічога, акрамя нараджэння, з Мар'інай Горкай не звязвае. Праўда, у гісторыка Эдуарда Карніловіча чытаем: "Развіццё Мар'інай Горкі, Пухавіцкага краю неразрыўна ў XIX стагоддзі, другой яго палове звязана з Макавым..." А гэта — і яго гаспадаранне ў мар'інагорскім маёнтку, і ўплыў на будаўніцтва чыгункі праз Мар'іну Горку, і адукацыя ў Мар'інай Горцы, наваколлі. Значыць: сэнс пэўны ў наданні імя Макава новаму паселішчу быў, ёсць.

...У свой час акадэмік Т. Цыхун заўважыў: "Разбурэнне тапанімічнага ландшафту рэспублікі, які сфарміраваўся на працягу многіх стагоддзяў, вядзе да страты гістарычнай памяці, дэфармацыі ў духоўнай і маральнай сферы народа, адчужэнню чалавека ад яго звычайнага асяроддзя пражывання..."

Пухаўчане, мар'інагорцы паспрабавалі парушыць ужо даўно сфарміраваную тапанімічную прастору. Ці не памыліліся?

**Мікола МІРШЧЫНА**

КОНКУРС

# Маладзечанцы набываюць вядомасць

Усё часцей нагадваюць пра сябе на канцэртных пляцоўках краіны юныя таленты з Маладзечна. Шырокаму колу слухачоў добра вядомыя прозвішчы выканаўцаў эстрадных песень Насты Жук, Сашы Салаўёва, Дзмітрыя Мінько. Але ёсць і тыя, хто робіць першыя адметныя крокі ў фартэпіянным выканальніцтве.

Не так даўно ў Віцебску адбыўся першы Міжнародны конкурс юных піяністаў імя І. С. Баха. У ім удзельнічала вялікая колькасць навучэнцаў музычных школ Беларусі і бліжэйшага замежжа. Выступленні юных талентаў ацэньвала высокапрафесійнае журы ў складзе прафесара Беларускай акадэміі музыкі З. Качарскай, заслужанага артыста Расіі і педагога ЦССМШ пры Маскоўскай кансерваторыі А. Мндаянца, прафесара Вышэйшай школы музыкі горада Грац (Аўстрыя) Манфрэда Тауша.

Маленькім піяністам было цяжка спаборнічаць паміж сабой. Многія з іх ужо не раз удзельнічалі ў розных міжнародных конкурсах і нават выходзілі пераможцамі. Тым больш цяжка было журы вызначыць лепшых з трох узроставых груп. У сярэдняй з іх вышэйшай узнагародай быў адзначаны Міхась Ялецкі — навучэнец 4 класа сектара практыкі Маладзечанскай музычнай вучэльні. Яго настаўнік Сяргей Шпадарук ахарактарызаваў свайго вучня як вельмі таленавітага піяніста, ігра якога можа ўразіць натхнёнасцю, глыбінёй пранікнення ў музычны вобраз твора. "Мішу адрознівае незвычайная музыканцкая аддача, — кажа Сяргей Юльянавіч. — У яго выкананні няма ніводнай "пустой" ці бессэнсоўнай ноты".

Відаць, невыпадкова выступленне Міхася Ялецкага было адзначана на конкурсе ганаровай граматай за выкананне твораў Баха. Таксама ён атрымаў прыз "Надзея" як перспектыўны піяніст. Але талент юнака, напэўна, не зведаў бы такога хуткага развіцця без прафесійнай дапамогі С. Шпадарука, у класе якога выхоўваліся і іншыя таленавітыя піяністы: Таццяна Захарава, студэнтка БАМ, удзельніца Міжнароднага конкурсу "Мінск-2000", Аляксандр Дзяруга, які працягвае адукацыю ў Вышэйшай школе музкі ў Германіі.

Што датычыць Міхася Ялецкага, дык ён паспявае займацца яшчэ і кампазіцыяй у класе Алены Атрашкевіч. Спадзяёмся, што ён здолее дасягнуць не меншых поспехаў у выканальніцтве, чым яго старэйшы брат Павел, таксама выпускнік Маладзечанскай школы пры музычнай вучэльні (лаўрэат рэспубліканскага, міжабласнога і міжнароднага конкурсаў), які цяпер займаецца на І курсе Маскоўскай кансерваторыі ў класе Льва Навумава.

**Марына МРАЧКО**

*г. Маладзечна*



**ЧАСАПІС**

## "Апошнія вершы Леаніда Галубовіча"

**У літаратурных колах (а некаторыя з найбольш дасведчаных і з колаў калялітаратурных) ведаюць, што Леанід Галубовіч нейкі год назад вырашыў больш вершаў не пісаць. Па ўсім відаць, кіраваўся пры гэтым такім меркаваннем: усё значнае, што мог напісаць, паспяхова здзейсніў, а цяпер няхай будуць палоннікамі паэтычнай музы іншыя. А магчыма, на тое былі і падставы іншага кшталту, ды гэта вядома толькі самому Л. Галубовічу. Аднак факт застаецца фактам: Л. Галубовіч-паэт даўно не з'яўляўся на старонках перыядычнага друку і ўсё больш пераконваў чытача, што калі ўважліва пашукаць у левай кішэні, дык там абавязкова можна нешта знайсці. Ва ўсякім разе "зацемкі з левай кішэні" па-ранейшаму пішуцца рэгулярна. Аднак ёсць суцяшэнне і для тых, хто любіць Л. Галубовіча-паэта: Таварыства Вольных Літаратараў выпусціла ў "Бібліятэцы часопіса "Калосьсе" зборнік "Апошнія**




**вершы Леаніда Галубовіча", што стаў пятай кнігай гэтай серыі. Зборнік атрымаўся аб'ёмным, што не можа не радаваць. Але зусім не да радасці, калі даведаешся аб накладах яго — усяго 150 паасобнікаў. Таму, думаецца, прыхільнікам паэтычнага таленту Л. Галубовіча давядзецца нялёгка, калі яны захочуць пазнаёміцца з гэтымі яго творамі. А пазнаёміцца ёсць з чым. Кніга атрымалася цікавай і шматтэмнай. Істотна і тое, што ў галоўным героі лёгка ўгадваецца сам паэт, а гэта лішняе пацвярджэнне, наколькі паэзія Л. Галубовіча ў добрым сэнсе аўтабіяграфічная і наколькі ён, як лірык, калі можна так сказаць, прывязаны да канкрэтных рэалій. Прываблiваюць вершы, у якіх адчуваецца повязь з зямлёй маленства, з кутком, дзе засталося самае дарагое і светлае і дзе цяпер, на адлегласці гадоў, напаткоўвае цябе смутак па незваротнасці страт, з-за ўсведамлення, наколькі хуткаплыннае і якое кароткае жыццё. А сярод гэтых твораў і тыя, у якіх у розных аспектах паўстае воблік Маці. Найбольш прыцягвае верш "***Што мне вашы...":**

*Што мне вашы "еўропы"*
*і "штаты" —*
*У мяне вунь на Клеччыне мама*
*Адыходзіць на неба ад хаты,*
*І ад вашай Еўропы — таксама.*

*Шчэ любоў яе толькі трымае*
*Да дзяцей, як зямлю — гравітацыя...*
*Ні на "боінгу", ні на трамваі*
*Не дапнеш да яе рэзервацыі...*

**А яшчэ творы, у якіх ажываюць воблікі заўчасна пайшоўшых з жыцця паэтавых сяброў-аднакласнікаў, у тым ліку і гэты — "Нясkладны сказ пра згубны сон", прысвечаны, як сведчыць аўтар: "светлай памяці сябра Галубовіча Пятра Платонавіча":**

*І ўчора яшчэ ён быў сябрам маім.*
*А сёння звоняць...*
*не прачнуўся...*
*Будзіць спахапіліся,*
*а ўжо душа — адляцела...*

**Адляцела, бо стала "няўлежна ёй, сумна", нічога не бачыла яна, "апроч плоці абрыдлай, пухнатай і потнай, і поўнай віна":**

*А была душа маладой і прыгожай,*
*Як і кожная наша,*
*бо ўсе яны — сёстры,*
*І ведама, — Бог ім бацька...*
*Шкада, што не ўсякая плоць*
*даруе ім волю,*
*Пакуль сама балюе*
*ў застоллі зямным...*
*Таму нашым душам і хочацца*
*З-за кратаў праціснуцца*
*клеткі грудной,*
*Каб пацешыцца светам...*

**І, канечне ж, у кнізе шмат іншых вершаў. І тых, у якіх трывожны роздум аб нашым часе і месцы Беларусі ў ім, і саркастычна-напоўненых, што часам знаходзяцца на мяжы парадыйнасці...**

**"Апошнія вершы Леаніда Галубовіча"? А мо гэта, як "Апошнія паведамленні" па радыё? Апошнія на сённяшні момант, а пасля з'яўляюцца новыя. Час адкажа...**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КРЫТЫКА

# "З маленства сілу слова знаю..."

Кожны пісьменнік адметны асабістым успрыманнем жыцця, асаблівасцямі творчага выяўлення. Прыродзе таленту паэтэсы Зінаіды Дудзюк уласцівы эмпірычны спосаб засваення рэчаіснасці праз жывое сузіранне побач з інтэлектуальным асэнсаваннем. Востры слых да слова, да яго фанетычных, семантычных, этымалагічных значэнняў, багатае ўяўленне, развіты мастацкі густ і вялікая працаздольнасць дазваляюць пісьменніцы знаходзіцца ў сферы ўздзеяння наасферы (сусветнай духоўнай прасторы), здабываючы адтуль патрэбную інфармацыю, прапускаючы яе праз магічны крышталь творчасці, ператвараць у музыку вершаў, ёмкія дыялогі драматычных твораў, змястоўную жывую пластыку апавяданняў і аповесцей.

Калі ў прозе пісьменніца засяроджваецца на балючых праблемах сучаснасці, разам са сваімі героямі праходзіць праз усе варункі іх жыцця, дык лірычная гераіня Зінаіды Дудзюк вылучаецца сваёй адасобленасцю, індывідуалістычным пачаткам, позіркам у сваю сутнасць.

Паэзія — гэта жыццяпіс паэта. Трэба мець вялікую мужнасць, каб расчыніць уласны свет перад невядомым чытачом, даць яму магчымасць зазірнуць у сваю душу. Шлях паэта — гэта шлях Сізіфа, якому дадзены свой камень і свая гара, пра што піша аўтарка ў вершы "Сізіфаў камень".

Сваё паэтычнае крэда яна выказала ў вершы "Спектакль":

***Праўду піша сваёю крывёю мастак,***
***І не трэба для праўды ніякага грыму.***

Натуральнасць і нязмушанасць паэтычнага слова, яго важкасць у кантэксце — усё гэта ёсць у паэзіі Зінаіды Дудзюк. Вершы зачароўваюць сваёй меладычнасцю, прываблiваюць непасрэднасцю, адкрытасцю, сілай пачуцця і драматызму, які можа даходзіць да трагізму, а гэта, у сваю чаргу, з'яўляецца асаблівасцю беларускай народнай песні. Гэтая ж рыса ёсць і ў менталітэце беларуса, адначасова гэта прыкмета сапраўднай літаратуры. Менавіта так: з болю і пакутаў узрастае ў чалавечай душы гармонія. Як заўважыў класік, "у сэрцы паэта схаваны глыбокія пакуты, але яго вусны створаны так, што стогн ператвараецца ў цудоўную музыку".

Вось, для прыкладу, радкі, якія яскрава пацвярджаюць гэтую думку:

***Я цябе ад сябе адлучаю —***
***Гэтак з дрэва здзіраюць кару...***

Якім бы ні быў драматычным верш, паэтэса заўсёды пакідае надзею на выратаванне і жыццё ("бяда мяне выводзіла на мудрасць, надзею пакідала напавер"; "тугу адганяю гаркавую, насустрач надзеі лячу" і г. д.).

Меладычна-песенная аснова, выкарыстанне сродкаў народнай паэтыкі (параўнанняў, вобразнага паралелізму, пераўвасабленняў і інш.) гавораць пра трывалую сувязь творчасці Зінаіды Дудзюк з беларускім фальклорам, які яна з маленства ўвабрала ў душу, адкуль узяла глыбінную сутнасць светаадчування; гэта значыць, набыла магчымасць адчуваць гэтаксама, як народ, але пры гэтым захавала індывідуальнасць.

***З маленства сілу слова знаю —***
***Заклён, прысуха, варажба.***

Так пачынаецца адзін з вершаў, змешчаных у зборніку "Абрысы лета" (1988), у якім аўтарка згадвае сваё маленства і бабулю:

***Жыла з багамі ў добрай згодзе,***
***Іх спагадаючы жыццю,***
***Як каляда закарагодзіць,***
***Прасіла шчыра на куццю.***

У полымі прымусовай хрысціянізацыі былі згублены таемныя звесткі пра міфалогію нашых продкаў (бо гэтыя веды перадаваліся з вуснаў у вусны), але засталіся звычаі і абрады, прымхі і забабоны, якімі карысталіся сяляне ў сваім побыце.

Сістэма вобразаў, якая ствараецца на працягу жыцця народа ў міфах, казках, паданнях, як пачатак каардынатаў быцця, адкуль кожны творца пачынае ўсведамляць сябе і дадумваць вобразны лад, выкарыстоўваючы знаёмыя архетыпы. Але фальклорныя традыцыі не запазычваюцца паэткаю механічна, дух народнай творчасці існуе ў падтэксце.

Паводле паганскіх беларускіх уяўленняў у фальклоры адзначаецца наяўнасць бінарных апазіцый: "дабро-зло", "доля-нядоля", "шчасце-бяда" і гэтак далей. Такія амбівалентныя уяўленні падсвядома праяўляюцца і ў наступным зборніку вершаў "Так і не" (1993). Адначасова з выкарыстаннем супрацьпастаўленняў, павялічваецца аб'ём, шматзначнасць фальклорнага вобраза.

***У белай чайкі чорнае крыло.***
***Злучаю я нязводна боль і радасць.***
***Так блытаецца праведнасць і здрада,***
***Так двухадзіны цемра і святло.***
***Я з чорнае і белае вады***
***Шукаю для надзеі паратунку.***
***Звініць чаканне трапяткою стрункай.***
***Так блізка да адхлання і бяды.***

Свабода расстаноўкі тэкставых акцэнтаў у рытмаладзе робіць структуру верша зменлівай і рухомай. Рытму надаецца вялікая роля ва ўсебаковым раскрыцці вобраза, ва ўзнікненні і развіцці эмоцыі — гэта самая важная і галоўная асаблівасць паэзіі Зінаіды Дудзюк.

Яе вершы, як і народныя песні, разнастайна інструментаваныя.

Вібрацыя гукапісу здатная дынамізаваць змест:

***Задыхнулася даўкім паветрам***
***І дыханнем тваім ажыла.***
***Ноч упала параненым вепрам,***
***Нас у нетры свае прыняла.***

Рытміка вершаў імгненна, як энцэфалаграма, рэагуе на самыя нязначныя змены ў эмацыянальным стане. Кансананс галоснай "а" (у гэтай страфе паўтараецца 17 разоў), алітэрацыя "п" і "р" ствараюць уражанне жывога чалавечага дыхання. Густыя "ча" і "чо" нібы ўхутваюць чарнатою.

***Тут сышліся сусветныя цені.***
***Чорны колер, ні знаку святла.***
***І язмінавасць дзённай пасцелі***
***Чарнатою мяне абвіла.***

Звяртае на сябе ўвагу пабудова і структура вершаў. Яны, як і народныя песні, маюць мноства разнастайных як метрычных, так і структурных асаблівасцей.

Усхваляваная рытміка, паскарэнне ці запавольванне тэмпу ўзмацняюць эйфанічныя якасці верша:

***Я — толькі стогн...***
***Ты чуеш, чуеш зараз?***
***І думаеш: зімовы стогне сад.***
***А гэта мне ўсяго за тое кара,***
***Што часта азіраюся назад.***

Гэты верш, як і многія іншыя, па ўнутранай сваёй сутнасці разлічаны на гучанне, толькі такім чынам найбольш поўна можна вызначыць яго выяўленчыя якасці.

Адчуванне слова ў паэткі выключнае. Напрыклад, назвы палескіх гарадкоў Ганцавічы,

УРАЖАННЕ

# Непаўторныя радкі

Не ведаю, як хто, а я заўсёды радуюся, калі прачытаю новы добры, цікавы раман, аповесць, паэму альбо проста верш.

Вось,напрыклад, зусім нядаўна чытаў у нашым паважаным штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва" гутарку Леаніда Галубовіча з вядомым нашым паэтам, празаікам Міколам Купрэевым. Увагу маю прыцягнулі да сябе яго простыя, але мудрыя словы: "як жыць літаратару? Жыць так, як жывецца не літаратару, а — чалавеку. А чалавек ніколі не паўтарае сваё жыццё**нанова.** І пісаць трэба пра сябе — кожны раз і кожны дзень — нанова. Тады гэта, напісанае, можа стацца цікавым для іншых. Бо непаўторнае".

Чытаючы гэтыя радкі, я падумаў і пра сябе. Я не лічыў сябе літаратарам, калі ішоў праз усю вайну ў страі стралковай роты, адным з першых фарсіраваў Днепр у раёне Лоева, ступаў на родную беларускую зямлю восенню 1943 года, вызваляў Беларусь, Украіну, Польшчу, Чэхаславакію ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, дайшоў да Берліна, да Эльбы і там закончыў свой апошні бой.Я мала пісаў тады, апроч таго, што заносіў у свой франтавы дзённік, які дазваляла мне рабіць маё начальства для напісання гісторыі нашай дывізіі. Пісаў я часам кароткія рэпартажы для франтавога друку. Але ўсё перажытае, перанесенае на сваіх плячах, у сваім сэрцы ў час ваеннага ліхалецця, засталося ў маёй памяці на ўсё жыццё. І многае з таго, што перажыта, лягло затым шчырымі радкамі ў мае паэмы "Вішнёвы агонь", "Плацдарм", "Апошняе пісьмо з вайны" і іншыя творы.

А вось яшчэ адно выказванне, якое мне спадабалася.

"Чалавек не можа сябе прымусіць змяніцца, але заўсёды здольны змяніць абставіны, якія затым памяняюць яго самога". Гэтыя словы належаць аднаму з філосафаў, якога (не называючы яго імя) цытуе ў гутарцы з карэспандэнтам "ЛіМа" кіраўнік ансамбля "Беларускія песняры" Алег Казловіч. Не буду закранаць пытанне аб лёсе нашага знакамітага ансамбля "Песняры", але, мне здалося, Алег Казловіч, цытуючы філосафа, вельмі трапна выказаў і свае думкі ў адносінах да мастацкіх крытэрыяў, да творчай працы людзей мастацтва.

З цягам часу, уступіўшы ўжо ў новае тысячагоддзе, я ўсё больш і больш заўважаю, што ў нашу літаратуру, у прыватнасці, у паэзію, ідзе здольная, таленавітая моладзь. Вось некалькі прыкладаў.

4 лютага ў "Літаратуры і мастацтве" была змешчана падборка вершаў маладога паэта Янкі Лайкова. Аб тым, што ён такі малады і прыгожы, гаворыць само яго аблічча на фота, змешчаным у газеце. А каб упэўніцца, што яго вершы маладыя, шчырыя і высакаякасныя па вобразным мысленні і глыбокія па думках, дастаткова іх прачытаць.

Колькі разоў даводзілася чытаць у вершах і апавяданнях пра старыя млыны, ветракі, якія былі і ёсць на нашай беларускай зямлі. Помніцца радок з верша Рыгора Барадуліна: "Стаіць на ўзгорку вятрак — сонца і ветру батрак". Геніяльна сказана. А вось Янка Лайкоў па-свойму напісаў пра крылатае збудаванне, якое адзінока стаіць сярод поля ці на беразе якой-небудзь ракі.

***Каля рачулкі безназоўнай***
***у светлай вотчыне маёй***
***ёсць млын стары, ад вока схоўна***
***спавіты даўніной нямой.***
***Ён тут спрадвеку. Невядома,***
***хто збудаваў яго і як.***
***Не раз, паўдзённай гнаны стомай,***
***спачыць сюды прыходзіў я.***
***Рабілася світальна, добра***
***і цёпла неяк на душы***
***у гэтых сценах прахалодных,***
***у гэтай нерушнай цішы.***

Даруем маладому паэту даўно збітую рыфму "цішы — душы", бо ў вершы ёсць не толькі адпаведны лірычны настрой, але сваё бачанне свету, адчуванне і ўспрыманне прыгажосці роднай зямлі. Усе астатнія вершы Янкі Лайкова, змешчаныя ў яго падборцы, напісаны таксама вобразна і эмацыянальна.

А вось яшчэ адна паэтычная сустрэча, якая не магла не парадаваць. Тут гаворка пойдзе аб так званай жаноцкай паэзіі, калі наогул так можна вызначаць жанр паэтычнай творчасці. У жанчын пра ўзрост, як вядома, не пытаюць. Але з упэўненасцю можна сказаць, што Марына Наталіч — хоць і крыху старэйшая за Янку Лайкова, але такая ж маладая па сваім голасе, па вобразнай сістэме мыслення. Вось усяго некалькі радкоў з яе новай кнігі "Странница" (яна піша па-руску):

***Господи, какая благодать —***
***В белый снег глазами упадать,***
***Белый снег ладонью сбить слегка,***
***Чтобы пролетающая птица***
***Верила, что это облака.***

Добрыя творы, напісаныя намнога маладзейшымі калегамі па пяры, мне нярэдка прыгадваюць уласную маладосць, юнацтва. Яны — мае маладыя гады — праходзілі зусім у іншым жыцці, не падобным на наша сённяшняе. Не будзем гаварыць, якім яно было — горшым ці лепшым, але і ў ім прабіваліся парасткі свежага, новага мыслення, нягледзячы на культаўскі дыспатызм, дэмагогію, блюзнерства, якія панавалі тады амаль над усім нашым грамадствам. Мы — маладыя людзі — захапляліся вершамі Аркадзя Куляшова, які быў крыху за нас старэйшы, але пісаў з такім маладым задорам, з такімі светлымі юнацкімі памкненнямі. Кожны яго новы верш быў для нас паэтычным адкрыццём. І мы бралі з яго прыклад, вучыліся ў яго, як і ў многіх іншых старэйшых майстроў мастацкага слова.

Сёння я поўнасцю згаджаюся з маладым празаікам Алесем Давыдавым, апавяданні якога прачытаў у першым нумары "Маладосці" за гэты год, які сцвярджае: "Юнацтва — тая шчаслівая пара чалавечага веку, якая аж перапоўненая як радасцямі, гэтак і прыкрасцямі, што вярэдзяцца потым у душы ўсё астатняе жыццё". Такімі словамі Алесь Давыдаў пачынае сваё апавяданне "Карусельшчык", прысвечанае сваёй нядаўняй пары маладосці, якая прайшла ў родным Гомелі. Але не трэба гаварыць — "прайшла", маладосць ніколі не праходзіць, назаўсёды застаецца з чалавекам у яго душы і памяці. Пра гэта вельмі добра сказаў калісьці выдатны рускі пісьменнік і даследчык літаратуры Віктар Шклоўскі (у якога я, дарэчы, вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах яшчэ ў 1954—57 гадах). Ён сцвярджаў, што "паэт з маленства бачыць на ўвесь свой век". І гэта былі не проста прыгожыя словы, сказаныя ім. Ён паказваў нам — курсантам — гэта на прыкладах, якія прыводзіў з жыцця і творчай дзейнасці такіх вядомых усяму свету майстроў мастацкага слова, як Леў Талстой, Мікалай Гогаль, Аляксандр Блок, Сяргей Ясенін і многіх іншых.

Калі закончылася вайна і я змог





## “Дзеля гэтага варта жыць”

**Так называецца новая кніга Анатоля Мяснікова, якая стала трэцім за сёлетні год зборнікам “Бібліятэкі часопіса “Маладосць”. Дарэчы, А. Мяснікоў у гэтай вядомай серыі выступае не ўпершыню. Новая кніга складаецца з эсэ і дыялогаў. Найбольш ранні матэрыял, прадстаўлены ў ёй, а гэта інтэрв’ю з вядомым літоўскім паэтам і перакладчыкам, заслужаным дзеячам культуры Беларусі Альбінасам Жукаўскасам “Я прыйду туды, дзе ўсё мне родна...”, датаваны маем 1982 года, але ёсць і публікацыі, якія з’явіліся ўпершыню на старонках “Звязды” ў 1998 і 1999 гадах. Змест зводзіцца да аднаго: шлях да Беларусі. Да Беларусі суверэннай, якая б магла годна адчуваць сябе сярод іншых дзяржаў. Шлях праз рост дабрабыту і росквіт культуры, развіццё літаратуры і пазбаўлення тых праблем, якія па-ранейшаму стаяць востра. А адна з самых галоўных тут — чарнобыльская. А. Мяснікоў прымушае задумацца: ці так мы жывём, як трэба жыць; ці на тыя**



**арыенціры раўняемся, на якія трэба раўняцца; ці тыя ідэалы выбіраем, што неабходны. І пра ўсё гэта гаворыцца абгрунтавана, а ў нечым і палемічна. Істотна, аднак, такое сцвярджэнне з выдавецкай анатацыі: “З аўтарам можна пагаджацца, можна — і трэба! — спрачацца... Усё можна і трэба! Нельга рабіць толькі адно: заставацца раўнадушным, абыякавым да ўсяго таго, што напісана ў кнізе, што акрэслена, выяўлена, пазначана як самім Анатолем Мясніковым, так і ягонымі героямі”. А што гэта і на самай справе так, упэўнівае ўжо матэрыял, якім кніга адкрываецца. “І вольны бацькаў кут!” — гэтыя Купалавы словы, вынесеныя ў загаловак, сведчаць аб накірунку гаворкі. А яна скіравана на тое, каб чытач як мага лепш зразумеў, як важна беларусам жыць у сваім вольным доме, наколькі яны на працягу стагоддзяў выпакутавалі гэтае права. І хоць з’явіліся гэтыя развагі А. Мяснікова ў сакавіку 1994 года, яны па-ранейшаму актуальныя: “Сёння, як і ўчора, і пазаўчора дзесяткі і сотні людзей (асабліва народных дэпутатаў розных узроўняў) гатовы сцвярджаць (а некаторыя — крычаць), што яны, і толькі яны ведаюць скрытыя, нябачныя іншым шляхі выйсця са становішча, унутраныя і ледзь не таямнічыя рэзервы і пружыны грамадскага развіцця, рэцэпты новай “светлай будучыні”. Мінулі гады іхняга знаходжання на палітычным Алімпе, а народу становіцца з кожным днём усё горш і горш... І далей: “На жаль, і сённяшнія лідэры глядзяць на народ, на ўсю краіну Беларусь, як на матэрыял, з якога яны, нібыта, маюць права рабіць усё, што толькі ўздумаецца. Але ж і гэта мы ўжо праходзілі! Дык ці не годзе, шаноўныя!" Выклікаюць вялікую цікавасць тыя матэрыялы, у якіх А. Мяснікоў разважае пра ўклад у справу нацыянальнага Адраджэння лепшых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. У адных выпадках гэта агляд шляху, пройдзенага імі. У прыватнасці, А. Мяснікоў піша пра народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава (“Наш Быкаў”), народную артыстку Марыю Захарэвіч (“Святло і цяпло зоркі Марыі Захарэвіч”), выдатнейшага вучонага і грамадскага дзеяча Радзіма Гарэцкага (“Гарэцкі з роду Гарэцкіх”) і іншых. А поруч усхваляваныя гутаркі з вядомым паэтам, былым пастаянным прадстаўніком Беларусі ў Арганізацыі Аб’яднаных Нацый Генадзем Бураўкіным (“Ёсць такая дзяржава — Беларусь”), галоўным рэдактарам часопіса “Полымя” Сяргеем Законнікавым (“Трэба думаць пра будучыню, пра тых, хто ідзе і прыйдзе ў жыццё за намі...”), празаікам Анатолем Кудраўцом (“Спачатку — жыццё. Потым — вяртанне яго ў іншай існасці...”)... Адным словам, ёсць што прачытаць. Ёсць над чым задумацца.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ПАЭЗІЯ

Павел ШРУБ



# З кнігі “Шлях на Тураў”

## Жыткавічы

*Аблезлы перон*
*збалелага горада.*
*Не горды ён*
*і я не горды...*

*Да небакраю*
*шэры дождж асенні —*
*і я сустракаю*
*не па адзенні:*

*бо смачна накормяць*
*у сустрэчнай сталоўцы,*
*бо на станцыі ўспомняць*
*аднавяскоўцы,*

*бо шэрыя фарбы*
*роднай зямліцы*
*душу больш радуюць,*
*чым бляск сталіцы...*

*Аблезлы перон*
*збалелага горада.*
*Над сметніцамі двароў*
*бабкі горбяцца...*

*Думаць буду ў купэ:*
*чаму без грошай?*
*Мо таму, што сябе*
*цаніць не гожыя?..*

## Тураў

*Высах, няма кірмашовага віру,*
*хоць (вочы заплюшчыш) які быў цуд —*
*яўрэйка: “У “кугцы” вашай ні жыру!..”,*
*а бабка: “Тлустая, важыць мо пуд...”*
*А побач гадае пра лёс цыганка,*
*адно толькі ручку пазалаці...*
*Знік кашалёк, знікла некуды п’янка,*
*гаруе мужык: “Як да жонкі зайсці?”*

*...Яўрэяў няма —*
*курка ў крамах прапала,*
*хіба толькі брыдкае качаня.*
*Цыганка даўно тут гадаць перастала:*
*нішчымная стала ва ўсіх*
*даланя...*

*У Тураве сённяшнім ціха-ціха.*
*І ўсё ж я не веру,*
*што гэта канец,*
*бо вучаць стагоддзі: ліха — не ліха,*
*покуль апошні не счэз*
*туравец...*

## Уікэнд

*Бліскучы дзень, святло лістоты...*
*Убок турботы!*
*Мне, як лістку, з табой за шчасце*
*сарвацца*
*і нічком упасці*
*ў далоні жнівеньскай лагоды...*

●

*Каля вёскі маёй*
*між калгасных угоддзяў*
*выспа ёсць, дзе калісьці*
*мае продкі жылі.*
*Там угледзеў я знак*
*пралядцелых стагоддзяў:*
*паўзасыпаны гляк*
*у засохлай зямлі.*

*Я яго адкапаў.*
*Хоць марудна, хоць туга*
*ён выходзіў з пяску,*
*бы знясілены грыб...*
*Быў ён зроблены цалкам*
*без ганчарнага круга,*
*ды прыгожым яго*
*ўсё ж назваць мы маглі б...*

*Быў ён цёплым зусім,*
*хоць зямля была стылай.*
*І здалося мне, што*
*праз вякі і вякі*
*мяне продак крануў*
*з непагаснаю сілай*
*цеплынёй сваёй цвёрдай,*
*шурпатай рукі...*

## Слепцы

*Зараз Знаменкай называюцца,*
*хоць па нашаму б лепш — Сцяжынай...*
*Ды сляпцы камунізм не намацаюць*
*і ў тым —*
*пераназвы прычына.*

*А калісь*
*на балонне сюды*
*з глухое палескае пушчы*
*выйшлі чатыры браты, —*
*з іх кожны быў*
*невідушчы...*

*І хоць сляпымі былі,*
*ім кожны мог пазайздросціць:*
*купцы аж з валоскай зямлі*
*да іх прыязджалі ў госці.*

*А сёння кіраўнікі*
*сляпыя, хоць бачаць*
*казалі...*
*Ці то ім кіраваць не з рукі,*
*ці то рукі ім нечым звязалі...*

## Дзічка

*Па вясне відно здалёку,*
*як цвіце між поля дзічка,*
*і яна любому воку —*
*як сасмягламу крынічка...*

*І ніхто не мог уцяміць,*
*як, адкуль тут узялася,*
*пад шалёнымі вятрамі*
*расквітнела, паднялася.*

*Выйду ў поле рана-рана —*
*палымнее ў полі дзічка...*
*Ты, калючая,*
*каханай —*
*нібы родная сястрычка.*

*Колькі год не быў я дома,*
*на радзімай Беларусі?*
*Невядома-невядома,*
*толькі ў родны кут*
*вярнуўся.*

*Майскай сцежкай палявою*
*я пайшоў —*
*яе не стала...*
*Можа, хтосьці*
*ўзяў з сабою,*
*можа, знічкаю растала...*

*Позна гляну, а ці рана —*
*не цвіце, не свеціць дзічка,*
*што была маёй каханай,*
*нібы родная сястрычка...*

*Не цвіце, не вабіць дзічка,*
*незаўважна нікнуць ранкі:*
*ціха спаць —*
*мая прывычка,*
*бо няма й маёй каханкі...*

Святлана ЛАПІКАВА



*Святлана ЛАПІКАВА нарадзілася ў 1974 годзе ў вёсцы Новыя Віхраны Мсціслаўскага раёна. Скончыла педагагічны каледж, завочна вучыцца ў Магілёўскім універсітэце. Працуе намеснікам рэдактара Дрыбінскай раённай газеты “Савецкая вёска”. Друкавалася ў “Чырвонай змене” і “Маладосці”.*

## Трыялет

*Мне лепш было б застацца тут,*
*Яшчэ на момант, на хвіліну,*
*Бо сэрца душаць успаміны.*
*Мне лепш было б застацца тут.*

*Жыццё, цябе не пазнаю.*
*Ды, пэўна, з думкаю пакіну,*
*Што лепш было б застацца тут,*
*Яшчэ на момант, на хвіліну.*

## Калыханка

*Пазяхала сонейка за сялом,*
*Абяцала Лёніку дзіўны сон.*
*“Баю-баю, родненькі, баю-бай!*
*Не ўзнімай галованькі, засынай.*
*Вочкі-васілёчкі закрывай,*
*Хай прысніцца хлопчыку*
*Ў лесе Зай.*
*Зай з маленькай елачкай і кашом,*
*У якім цукерачкі дзеткам ёсць*
*Хто раскажа казачку,*
*а хто верш —*
*Зайкаў абаранчак будзе мець.*
*А таму, хто песеньку запяе,*
*Зай па пяць цукерачак раздае”.*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Лёнік слінкі ў роціку сунімаў.*
*Пэўна, нешта з кошыка атрымаў.*

## Мсціслаў

*Ля Віхры маёй празрыстай*
*Некалі Лясун блукаў,*
*Немаўляткаю ў калысцы*
*Сніў аб вечнасці Мсціслаў.*

*На Дзявочай і на Замку*
*Рэшткі тых мінулых дзён*
*Дасылалі нам, сучасным,*
*Поўны ўдзячнасці паклон.*
*Па тваіх драўляных вулках*
*Княжы бот калісь ступаў.*
*Не адказваў у прытулку*
*Абяздоленым Мсціслаў.*

*Цэрквы як паўсюль узводзіў,*
*Будаваў манастыры,*
*Апявалася ў народзе*
*Песнямі тае пары.*
*Колькі год крывёю лепшых,*
*Дарагіх сваіх сыноў*
*Адзначаў на полі межы...*
*І квітнеў, свабодны, зноў!*

*Для навукі і мастацтва*
*Шмат карыснага рабіў.*
*Ганарыцеся ж, мсціслаўцы,*
*Мудрым горадам сваім!*
*Ён заззяў, што зорка ў небе,*
*На зямлі легендай стаў,*
*Горад славы непамернай*
*З гучнай назваю Мсціслаў!*

●

*Знаходжу рэдкія хвіліны*
*На распазнанне чысціні.*
*Як вінаваты мы, як вінны*
*Перад сабой і перад Ім!..*

●

*Я па загаду вершы не пішу,*
*А толькі пры натхненні і уздыме,*
*Які запаланяе ўсю душу*
*І не дае мне счэзнуць або згінуць.*

*І шлях мой здасца дзіўным, заіскрыць,*
*Як Млечны Шлях, — высока,*
*незалежна.*
*Мне лёсам гэтак вызначана жыць*
*Але шляхі зямныя рэжуць межы...*



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ.*

ВІНШУЕМ!

# Алесю ПЕТРАШКЕВІЧУ — 70

**Нас шмат стагоддзяў пазбаўлялі памяці — падразалі родавыя карані, забруджвалі нашы гістарычныя крыніцы, высушвалі вытокі. Але мы — выжылі, выстаялі, вытрывалі. І дзеля сцвярджэння сябе, дзеля перадачы эстафеты неўміручасці нашчадкам мы замахнуліся на вялікую і добрую справу — падрыхтаваць і выдаць у кожным раёне Беларусі кнігу народнай памяці. І падрыхтавалі, і выдалі — ужо не адзін дзесятак кніг. Кнігі "Памяці" — гэта не даніна часу, не славутыя колісь "птушачкі" партыйнага мерапрыемства. Кнігі "Памяці" — гэта жывыя сведкі нашай далёкай і нядаўняй гісторыі, гэта, урэшце, сама наша памяць у яе матэрыяльным выяўленні.**

**Яны нараджаліся і нараджаюцца высілкамі многіх і многіх людзей: гісторыкаў, краязнаўцаў, журналістаў, настаўнікаў, пісьменнікаў, навукоўцаў, архівістаў. Ды маюць гэтыя кнігі і сваіх "хросных" бацькоў, намаганнямі якіх сама ідэя іх выдання набыла крылы і ўрэшце рэальныя абрысы. Адным з такіх "хросных" серыі "Памяці" з'яўляецца Алесь Петрашкевіч, якому 1 мая спаўняецца 70 гадоў. І згадваючы гэтую пашанотную для Аляксандра Лявонавіча юбілейную дату, найперш запрасілася на ўспамін акурат вось гэтая ягоная грамадзянская і пісьменніцкая чыннасць — шматгадовая праца па выданні кніг "Памяці".**

**А ўвогуле за пражытыя 70 гадоў юбіляр зрабіў вельмі і вельмі шмат. Колішні хлапец з вёскі Пярэвалачня, што на Талачыншчыне, дасягнуў досыць высокіх жыццёвых, ці службовых, вышынь: працаваў у ЦК ЛКСМБ, у ЦК КПБ загадваў аддзелам культуры, быў рэктарам Мінскага інстытута культуры, адказным сакратаром, намеснікам галоўнага рэдактара БелСЭ... У 1976 годзе стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі.**

**А галоўнае ж — творчыя вышыні на ніве драматургіі. Згадаем ягоныя п'есы: "Адкуль грэх?", "Трывога", "Злыдзень", "Укралі кодэкс", "Напісанае застаецца", "Соль", "Русь Кіеўская", "Злавеснае рэха", "Куды ноч, туды сон", "У спадчыну — жыццё", "Дагарэла свечачка", "Мост упоперак ракі" і інш. Многія з іх набылі шырокае і доўгае сцэнічнае жыццё.**

**А яшчэ ж можна і варта згадаць сцэнарыі фільмаў, лібрэта оперы "Новая зямля", радыёспектакля...**

**Слынны наш драматург плённа працуе і сёння, аб чым сведчыць яго новая п'еса, сцэны з якой друкуюцца ніжэй.**

**"ЛіМ" віншуе Аляксандра Лявонавіча з юбілеем і зычыць яму, свайму даўняму аўтару і сябру, моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і новых творчых здабыткаў.**

# У НЯДЗЕЛЬКУ ПАРАНЕНЬКУ...

Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ


АЎТАР

*Прапаную чытачам штотыднёвіка ўрывак з гістарычнай драмы "У нядзельку параненьку..." Яе героі: вялікі князь Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, кароль Польскі Жыгімонт, Вялікі князь Маскоўскі Васіль III, гетман найвышэйшы ВКЛ князь Канстанцін Астрожскі, князь-авантурыст Міхайла Глінскі ды іншыя. Прапануемыя сцэны аднаўляюць гістарычныя падзеі, звязаныя з мяцяжом Глінскага (1507—1508); спробай далучэння Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага да Масковіі.*

## VIII

**Кракаў. Кароль і вялікі князь Жыгімонт на каралеўскім троне. З правага боку ад яго пры ўсім узбраенні ваявода Ян Забярэзінскі. Перад імі бяззбройны князь Міхайла Глінскі.**

Міхайла ГЛІНСКІ. Няхай міласцівы кароль даруе, але я не разумею...

ЖЫГІМОНТ *(перапыняе)*. Гэта ўжо твая бяда. Прымі маё спачуванне...

Міхайла ГЛІНСКІ. Выслухаўшы перад каранацыяй маіх, мякка кажучы, нядобразычліўцаў пра мае "чорныя намеры", ваша вялікасць не толькі не здзівілася ці перапалохалася, што я сяду замест вашай вялікасці на вялікае княжанне, а без сумневу, як мне падалося, паверыла мне, што я гатовы як падданы адвагай і вернасцю паслужыць вашай вялікасці, як пану прыроджанаму.

ЖЫГІМОНТ *(са здзекам)*. Мне толькі і застаецца аддзячыць васпана за такую ласку...

Міхайла ГЛІНСКІ. Ваша вялікасць не запярэчыла і пры каранацыі, калі я як маршалак дворны і герой Клецкай перамогі, а гэтага ў мяне ніхто не зможа адняць, падносіў вашай вялікасці меч і прамаўляў шчырае вітанне.

ЖЫГІМОНТ. І за гэта дзякуй, і за сціплы напамін, што васпане ў нас герой незаменны.

Міхайла ГЛІНСКІ. Дык што ж здарылася? Якая кошка ці сучка *(глядзіць на Яна Забярэзінскага)* прабегла паміж каралём і маршалкам дворным?.. А здарылася тое, у чым я перакананы, што ваявода Забярэзінскі, як і ягоныя хаўруснікі з ліку паноў-рады і епіскапата віленскага, адчулі маю славу, сілу і годнасць перад людствам паспалітым. І каб не дапусціць да вашай вялікасці, яны прыдумалі паклёпы, нібыта князь Глінскі задумаў "падсесці" вялікакняжацкі пасад, што нібыта ён "чарамі саслаў з гэтага свету вялікага князя Аляксандра", а "вялікай княгіні многа прыкрасці ўчыніў". Гэтыя брыдкія пагалоскі разнесліся па ўсёй Літве і Польшчы. Няхай адкажа неба: хіба такое можна даравацць, ваявода Ян?!

Ян ЗАБЯРЭЗІНСКІ. А хіба не ты параіў каралю і вялікаму князю Аляксандру замяніць лекара Мацея Блоня на шарлатана-алхіміка Балінскага, які загадаў напаліць лазню і, прывёўшы туды нябожчыка, ледзьве не замарыў яго там?..

Міхайла ГЛІНСКІ. Бачыў Бог і людзі, што князь Міхайла Глінскі праз усе часы быў верным рыцарам і фаварытам пры каралі і вялікім князі Аляксандры.

ЖЫГІМОНТ. Кароль і вялікі князь Жыгімонт у фаварытах патрэбы не мае. А фаварыта свайго брата-нябожчыка ад сёння пазбаўляе пасады маршалка дворнага, адхіляе ад кіравання манетным дваром, пазбаўляе намесніцтва Бельскага, а яго ўладанні Гонязь і Бельск перадае вялікай княгіні Алене.

Міхайла ГЛІНСКІ. Значыцца, міласцівы кароль тым самым пазбаўляе мяне заступніцтва вялікай княгіні... *(Да Яна Забярэзінскага.)* Я віншую цябе, ваявода. Ты зрабіў больш, чым я меркаваў.

ЖЫГІМОНТ. Ты вольны, Міхайла Глінскі...

Міхайла ГЛІНСКІ *(з пагардаю і пагрозаю)*. Няйначай, кролю, спакусіўся я на такую рэч, якая і табе, і мне на потым будзе жаласная... Гонар маю! *(Выходзіць і сутыкаецца з Канстанцінам Астрожскім, апранутым у сялянскае, што надзвычай здзіўляе Жыгімонта і Яна Забярэзінскага.)* Канстанцін?! Не да дабра... Не да дабра ты з'явіўся, пляменнічак... *(Знікае)*.

Ян ЗАБЯРЭЗІНСКІ. Міласцівы кароль, гэта ж князь Астрожскі! Канстанцін Іванавіч Астрожскі!

ЖЫГІМОНТ *(устае з трона, раскідвае рукі для абдымкаў)*. Мне не трэба прадстаўляць гетмана найвышэйшага. *(Абдымае Астрожскага, потым разглядае засмучанага госця.)*

Канстанцін АСТРОЖСКІ. Няхай міласцівы кароль і вялікі князь даруюць, што я ў такім непартыкулярным выглядзе...

ЖЫГІМОНТ *(усхвалявана і радасна)*. Як?! Калі?! Адкуль?! Няйначай божы промысел...

Канстанцін АСТРОЖСКІ. І божы промысел таксама... Але спачатку — год у кайданах... у яме... на Маскве. Каля пяці гадоў — у вязніцы ў Волагдзе... таксама ў кайданах... яшчэ год — пад наглядам пільным...

ЖЫГІМОНТ. Расказвалі Андрэй Курбскі і Сігізмунд Герберштэйн, як ламаў нашага гетмана спачатку князь Іван, а потым князь Васіль, каб прымусіць прыняць прысягу вернасці Масковіі. "Перамога ў барацьбе, — казаў сваім мучыцелям князь Астрожскі, — гонар майго імя, а кошт — жыццё!" Мы ведалі гэтыя твае словы! Я ганаруся табою, слаўны воін! Не кожнаму такая мужнасць дадзена. Чым трымаўся шэсць страшэнных гадоў?..

Канстанцін АСТРОЖСКІ. Страхам і трымаўся...

ЖЫГІМОНТ *(вельмі здзівіўшыся)*. Страхам?..

Канстанцін АСТРОЖСКІ. Адна думка, як цвік у галаве: змаладушнічае Астрожскі, дык і другія палонныя паддадуцца слабасці. А як зразумеў, што занадта назаляюць крымчакі вялікаму князю Васілю Іванавічу, перадаў яму праз валагодскіх святароў, што гатовы перайсці да яго на службу. Вораг жа агульны. Грэх у яме адседжвацца. Адразу ж быў узнагароджаны санам баярына і землямі не малымі. Клятву вернасці і праўдзе давялося даць: "Калі ж супраць таго ўсяго ў нечым адступлюся... пакараць мяне вольны смерцю залежна ад маёй віны... і не будзе мне літасці Божай ні ў гэты век, ні ў будучы". Падпісаў і... збег, як кажуць, у чым стаю.

ЖЫГІМОНТ. Застанься пры мне, князь... і нечым большым, чым гетманам найвышэйшым. Перамогам тваім над ворагамі Княства і Кароны пасприяю, колькі будзе маёй моцы...

Канстанцін АСТРОЖСКІ. Прыняць такую прапанову ад міласцівага караля і вялікага князя — высокі гонар, але ж каб не было шкоды і Княству, і Кароне...

ЖЫГІМОНТ. Даруй, князь, не зразумеў я...

Канстанцін АСТРОЖСКІ. Каралеўскі двор і большасць мужоў набліжаных — рымскай веры, а я — праваслаўны...

ЖЫГІМОНТ. Вера — справа асабістая. І што з таго, што ты адной веры з уладарамі маскоўскімі? У нас з табой, князь, Дзяржава і Айчына адна. Пра гэта і думаць будзем. Васіль III на трон вялікага князя меціў. Не дасягнуўшы сваёй запаветнай мары такім чынам далучыць Княства да Масковіі, заявіў: "Пакуль конь мой будзе хадзіць і меч секчы, не дам спакою Літве".

Канстанцін АСТРОЖСКІ. У мяне свае рахункі і да Васіля, і да Масковіі.

ЖЫГІМОНТ. Мы пасябруем, князь Канстанцін. А ў падзяку за службу ратную і пакуты за Айчыну родавае серабро Астрожскіх, закладзенае на патрэбу войска, выкуплю. А каб меці цябе побач, прашу заняць пасаду пана віленскага.

**Канстанцін Астрожскі кланяецца Жыгімонту.**

## IX

**Масква. Вялікі князь Маскоўскі Васіль III у глыбокім задуменні ходзіць перад сваім тронам. Нясмела з'яўляецца ўстрывожаны князь Шчэня і ціха чакае, пакуль князь яго заўважыць.**

ВАСІЛЬ III *(заўважыўшы князя Шчэню, незадаволена)*. Ну, што табе?..

Князь ШЧЭНЯ. Даруй, гасудар. Пасол наш Міцька Губа з Літвы вярнуўся з навінаю надзвычайнаю...

ВАСІЛЬ III. Ад гэтай клятай Літвы я ўжо не толькі спакой, але і сон, і смак страціў...

Князь ШЧЭНЯ. Міцька такое прынёс!..

ВАСІЛЬ III. Ладна, кліч свайго Міцьку. *(Садзіцца на трон.)*

**Князь Шчэня прыводзіць Міцьку Губу. Той падае на калені, кланяецца ў ногі вялікаму князю.**

Што там на Літве?.. І ўстань!..

Міцька ГУБА *(устаўшы з каленяў)*. Гасудар! Кароль Жыгімонт адхіліў ад усіх пасад таго самага Міхайлу Глінскага, які ўшчэнт разбіў татараў пад Клецкам...

ВАСІЛЬ III *(скептычна)*. Таксама навіна для цэсара...

Князь ШЧЭНЯ. Але ж ён прыблізіў да сябе беглага клятваадступніка Астрожскага.

ВАСІЛЬ III. На яго месцы я зрабіў бы тое ж.

Міцька ГУБА. Міхайла Глінскі адсек галаву свайму заклятаму ворагу Яну Забярэзінскаму...

ВАСІЛЬ III. Каму?..

Князь ШЧЭНЯ. Набліжанаму да Жыгімонта ваяводзе Троцкаму...

Міцька ГУБА *(перапыняе)*... падняў мяцеж і распусціў свае загоны па ўсёй Літве...

ВАСІЛЬ III *(вельмі зацікаўлена)*. Вось гэта ўжо нешта...

Міцька ГУБА. ...пачаў шукаць, забіваць і мардаваць літоўскіх паноў... Замятня вялікая ў Княстве пачынаецца!..

ВАСІЛЬ III *(вельмі ажыўлена)*. Так...

Міцька ГУБА. Сам Глінскі з загонам у семсот вершнікаў напаў на Гародню і скіраваўся на Трокі, каб захапіць там паланёнага хана Залатой арды Шых-Ахмета з намерам перадаць яго на расправу Менглі-Гірэю, за што той нібыта абяцаў Глінскаму заваяваць для яго Кіеў...

ВАСІЛЬ III. Вось як...

Міцька ГУБА. Каб перацягнуць на свой бок як мага больш людзей, Глінскі абвясціў сябе змагаром за праваслаўе.

КНЯЗЬ ШЧЭНЯ. Дык ён жа сам католік...

Міцька ГУБА. Быў жа некалі і праваслаўным...

ВАСІЛЬ III *(двухсэнсоўна)*. Бачыце, які ў Міцькі аргумент. *(Да князя Шчэні, строга.)* А што мы наогул ведаем пра гэтага Глінскага?

Князь ШЧЭНЯ. Пакуль хіба толькі тое, гасудар, што ён заняў шэраг барадоў Княства, абклаў Менск, Слуцкае княства, як кажа Міцька, мяцежнікі папаланілі, як татары.

Міцька ГУБА. Ведаю я, гасудар, пра гэтага прайдзісвета і нямала...

ВАСІЛЬ III (жартам). Дык ты ўжо, Міцька, ад мяне не хавай, а то я некага іншага да ліцвінаў паслом зашлю...

Міцька ГУБА. Паводле слоў хана Менглі-Гірэя, гэта першы малойца на ўсё Вялікае княства. Вядомы нам немец-падарожнік і пасол Герберштэйн назваў Глінскага "чалавекам выдатнай вопытнасці і рэдкай доблесці". Кароль Жыгімонт лічыць Глінскага здрадцам, які "чарамі саслаў з гэтага свету вялікага князя Аляксандра і хацеў Вялікае княства пад сябе падсесці". А вось што пісцы запісалі пра яго ў "Хроніку Літоўскую і Жамойцкую" *(чытае з аркуша.)* "...бо Глинский, будучи мужным велце и смелым, и на все делным, розуму довсципного и до каждой речи способного, так был славный, же межи всеми королями и княжаты посторонными добре значный и в великой у короля Александра хованый был ласце. Приятелей теж много лайностю, достатком и датком щодробливым собе мел, так теж маетностий и скарбов праве княжих маючи поднеслися в пыху".

ВАСІЛЬ III. Адкуль жа ён раптам, такі ўдалец, узяўся?..

Міцька ГУБА. Вялікі гасудар, ён не раптам... Род Глінскіх паходзіць ад аднаго з сыноў хана Мамая.

ВАСІЛЬ III. Ого!..

Міцька ГУБА. Мамаевіч гэты валодаў у прыдняпроўі горадам Глінскам і суседнімі з ім Палтавай і Глінніцай. Выхоўваўся пры двары германскага імператара Максіміліяна. Дванаццаць гадоў праслужыў у герцага саксонскага Альбрэхта.

ВАСІЛЬ III. Гэта ўжо цікава... Надзвычай цікава!..

Міцька ГУБА *(заахвочана)*. Па словах таго ж Герберштэйна Глінскі засвоіў вытанчаныя манеры і рыцарскія звычкі, быў спрытны ў вайсковых практыкаваннях, скачках, фехтаванні, барацьбе, скоках, а таксама ў пацехах, такіх, як танцы і ўсялякія куртуазіі, чым заслужыў сабе шырокую вядомасць. А калі Альбрэхт распачаў вайну ў Фрысляндыі, дык "Гер Міхал", як называлі яго немцы, праявіў храбрасць... і, прайшоўшы ўсе ступені вайсковай службы, прыдбаў сабе слаўнае імя. Вялікі князь і Кароль Аляксандр убачыў у Глінскім чалавека, на якога спадзяваўся абаперціся і, дарэчы, не памыліўся ў барацьбе з панамі-радай. Такі вось ён, нашчадак Мамая Міхайла Глінскі...

ВАСІЛЬ III *(дастае з-за пазухі важкі капшук і кідае яго Міцьку)*. Трымай, пасол, узнагароду!..

**Міцька Губа спрытна ловіць капшук.**

Шкада — не ведаеш галоўную задуму і мэту Міхайлы Глінскага...

Міцька ГУБА. Усяго, вялікі гасудар, ніхто не ведае, але пасол твой пра тое-сёе здагадваецца.

ВАСІЛЬ III. Выкладвай!..

Міцька ГУБА. Сватаўся Глінскі — ужо мяцеж падняўшы — да слуцкай княгіні Анастасіі. А яна з князёў Алелькавічаў. А разлік, відаць, такі: Алелькавічы некалі былі кіеўскімі князямі, і, ажаніўшыся з Анастасіяй, Глінскі па праву можа спакусіцца на кіеўскі пасад. А спадзевы яго, як мне здаецца, на брата Івана — кіеўскага ваяводу, а таксама на хана Менглі-Гірэя, які абяцаў здабыць для Глінскага Кіеў.

ВАСІЛЬ III *(нібы працягвае думкі Міцькі)*. І ў выпадку ўдачы прайдзісвет зможа аднавіць Кіеўскае княства, падуладнае Крымскаму ханству.

Міцька ГУБА. Наўрад ці адновіць. Княгіня Анастасія князю Глінскаму гарбуза выкаціла, з-за гэтага той захапіў Слуцк, каб сілай завесці пад вянец наравістую...

ВАСІЛЬ III. Трымай дабаўку. *(Кідае невялічкі капшук.)* І тэрмінова збірайся з пасольствам да Міхайлы Глінскага. Князь Давыд перадасць табе ўсе мае ўстаноўкі...

**Міцька Губа кланяецца вялікаму князю.**

*(Працяг на стар. 12)*

*прыклад, так здарылася з маёй карцінай, дзе сосны над акопамі з калючым дротам плачуць з насечак смалой, як крывёю. Альбо "Партызанская балада", дзе паміраючага воіна корміць грудзямі жанчына-радзіма, адразу выклікала перапалох міністэрскіх чыноўнікаў. Але ж першаадкрывальнік гэтай тэмы Рубенс... Гэта падобна на гісторыю, калі чыноўнік з'явіўся ў наш мастацкі інстытут і, пабачыўшы класічныя копіі Мікеланджэлавых "Рабоў" пры ўваходзе, спужаўся таго, што агаленыя стаяць у калідоры. І скульптуры на пэўны час нават прыбралі".*

Да тэмы вайны, у якой Данцыг сказаў значнае слова, мастак таксама прыйшоў не адразу. Перад тым, як распачаць новую тэму, ён вывучаў зробленае папярэднікамі. Мастак імкнуўся знайсці свой вобраз вайны, сказаць адметнае слова, і, галоўнае, пазбегнуць заштампаванасці. Май Вольфавіч перажыў вайну сам, але не з франтавымі ўражаннямі. Разам з сям'ёю быў бежанцам, галадаў. Вайна для яго рэальнасць, а не толькі гісторыя. У карцінах на ваенную тэматыку ("Партызанскае вяселле", "Беларусь-маці партызанская") мастак верны творчай неардынарнасці. Ён імкнуўся адным з першых пераадолець замкнёнасць станковай формы. Мастак выдатна валодаў колерам і з дапамогай яго ўскладняў вобразнасць жывапіснай мовы, ствараў манументальныя постаці, калі ў межы палатна ўводзіў умоўнасць, дэкаратыўнасць, рытміку, павялічваў памеры карціны і самі фігуры.

І сёння Мая Данцыга не назавеш камерным мастаком. Ён па сутнасці свайго характару і душы застаўся прадстаўніком "суровага стылю", трыбунам і публіцыстам, які ўсёй сваёй творчасцю імкнуўся сумясціць ідэалы і рэальнасць. Яго не ўціснеш у такія папулярныя зараз "малыя" формы. "Ці напісаў бы Сурыкаў "Баярыню Марозаву" ў камерных памерах, — кажа мастак. — Карцінкі для кватэр і офісаў — зусім не ганьба. Але для мяне вялікае палатно — арганічная неабходнасць, частка мастацкага вобраза". Нават для партрэтаў,



якіх мастак напісаў за жыццё мноства, ён імкнецца выбіраць вялікія памеры і падбіраць людзей неардынарных: А. Адамовіч, В. Быкаў, А. Анікейчык, Б. Акуджава, Д. Гранін, В. Авілаў, Э. Клімаў, Г. Таўстаногаў... У гэтым пастаянстве Май Данцыг шчыры і сапраўдны.

На жаль, апошняе дзесяцігоддзе не дадало мастаку творчага імпэту. Наадварот, прэсінг грамадскіх і эканамічных абставін як бы "замарозіў" творчасць на нязвыклых раней для яго пейзажах. Пра Данцыга нават і забыліся. Ён не здолеў тыражыраваць свае работы і прадаваць іх у салоне-магазіне. Нешматлікія пакупнікі траплялія досыць выпадкова. За гэты час Міністэрства культуры не набыло аніводнай яго работы. Але яму хапае яшчэ сіл жартаваць, што з кожным узмахам пэндзля цяпер даводзіцца думаць не пра высокія матэрыі, а пра колькасць патрачанай фарбы. Тым не меш мастак спадзяецца, што нарэшце адчуе сілы, каб узяцца за новую тэму, каб змяніць мастацкі почырк. А пакуль можна ізноў пагартаць старонкі яго мастацкай "біяграфіі" на выставе-рэтраспекцыі ў Нацыянальным мастацкім музеі.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*На здымках: Май ДАНЦЫГ у сваёй майстэрні; "Мінск, нядзельная раніца".*

МАНАЛОГІ

# "Незахаваная спадчына можа адпомсціць"

**Ніна СУЛЕЦКАЯ, галоўны спецыяліст упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама, прадстаўнік Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны РБ:**

На Беларусі няма дзяржаўнай праграмы захавання гісторыка-культурных каштоўнасцей і гістарычных тэрыторый. Разам з тым, цікаўнасць да мінулага ў беларускім грамадскім асяродку расце з году ў год. Усё больш шырэйшае кола насельніцтва, і асабліва моладзь, цікавіцца гісторыяй старых будынкаў, творчасцю дойлідаў, станам утрымання і рэстаўрацыі помнікаў. Таму з часам праблемы незахаванай спадчыны будуць стаяць яшчэ больш востра, чым сёння. Хаця пэўны крок наперад ужо зроблены. Дзякуючы пазіцыі нашага камітэта, зараз ніводзін помнік нельга знесці беспакарана, як гэта было за савецкім часам.

25 лютага ў Полацку адбылося пасяджэнне адразу дзвюх навуковых рад камітэта: па рэстаўрацыі і мастацка-экспертнай. Разглядаліся вынікі рэстаўрацыі фрэсак XII стагоддзя, якімі была аздоблена царква Спаса-Еўфрасінеўскага кляштара. Рэстаўратар Уладзімір Ракіцкі, магчыма, увойдзе ў гісторыю беларускай культуры як пачынальнік зусім новай справы, бо дагэтуль не было ў нас храмаў з адрэстаўраваным жывапісам. Але спрэчкі разгарнуліся вакол мэтазгоднасці менавіта такой рэстаўрацыі. Царква перабудоўвалася ў XVIII ст., і калі счысціць фрэскі XVIII ст., то знікае частка арганічнага існавання помніка ў сучасным стане. Да таго ж невядома, як павядуць сябе фрэскі XII ст. пры сутыкненні з агрэсіўным асяроддзем атмасферы. Такім чынам, высвятляецца, **што навуковай канцэпцыі рэстаўрацыі старажытнага храма не існуе.** Адзінае што ёсць — гэта добрасумленны майстар і яго методыка.

Старажытны Віцебск зараз таксама знаходзіцца пад уплывам розных рэстаўратарскіх эксперыментаў. У цэнтры горада з'яўляюцца дамы з мансардамі, якіх раней не было. У нашым клімаце гаспадар імкнуўся заціпліць дах, а не раскрываць яго...

Зараз і праектныя інстытуты, і прыватныя майстроўні лёгка атрымліваюць ліцэнзіі на рэстаўрацыйныя работы. Між іншым, Міжнародная хартыя па кансервацыі і рэстаўрацыі помнікаў, прынятая ў Венецыі ў 1964 годзе, рэстаўрацыю лічыць выключнай мерай.

Турбуе тое, што паступовa гістарычны цэнтр Віцебска можа ператварыцца ў звычайны "карнавал", дзе не цепліцца жыццё, а дамінуе ілюзія жыцця. Гэта адбываецца, калі банкі і фірмы цалкам выцясняюць жылыя кварталы, **назіраецца змена функцыянальных асаблівасцей гістарычнага цэнтра.** Лічу, што трэба шукаць іншыя шляхі. На жаль, пакуль перамагае камерцыйны інтарэс, а прыярытэты гісторыка-культурнай спадчыны застаюцца другараднымі. У Віцебску наогул, як нідзе, уся ўлада па вырашэнні лёсу помнікаў культуры і архітэктуры сканцэнтравана ў адных руках. Галоўны архітэктар горада з'яўляецца адна-



часова і навуковым кіраўніком аднаўлення гістарычнага цэнтра, і кіраўніком некалькіх рэстаўрацыйных праектаў.

Сучасная пагоня за грашовымі сродкамі дзеля існавання можа сказіць гістарычныя рэаліі і асаблівасці беларускага горада.

Не менш сумны лёс у нашых малых мястэчак: Друя, Відзы, Дзісна, Копысь. Гэтыя пасёлкі з непаўторным ландшафтам і краявідамі, з адметнай планіроўкай будынкаў аказаліся сацыяльна закінутымі, яны проста самаразбураюцца. **Пасёлкі, якія маюць пэўнае гістарычнае прызначэнне, трэба дзяржаве браць пад сваю ахову.** Пакуль жа генеральныя планы іх развіцця праходзяць па-за кантролем Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны.

Не можа не хваляваць і лёс нашых старых могілак. Ва ўсім свеце грамадства вельмі паважана і па-дзяржаўнаму грунтоўна ставіцца да старажытных некропаляў. Могілкі лічацца гісторыка-культурнай каштоўнасцю народа. Для Беларусі гэтая тэма — terra incognita... няўзнятая цаліна. У нас няма закона аб могілках, а ён вельмі патрэбны хаця б дзеля таго, каб паставіць заслону выпадкам вандалізму.

Ці ёсць падставы для аптымізму? У любыя, нават самыя цяжкія часы, ёсць людзі, якія самаадданa працуюць на ніве захавання нашай спадчыны. У Браславе — Кастусь Шыдлоўскі, гэткая міні-акадэмія ў адной асобе. Толькі што выйшла ў свет цудоўнае выданне — набор паштовак "Гісторыя Браслава ў малюнках". Такіх руплівцаў можна сустрэць амаль у кожным куточку нашай Бацькаўшчыны. З іх дапамогай справа наша будзе жыць, і яе падхопяць нашчадкі.

**Падрыхтавала Святлана ГУК**

*Фота Міхаіла ШМЕРЛІНГА*



**вырвацца. Ён не сляпы выканаўца, але цалкам залежны.**

...Пад люстрай, у святле яе лямп, пад аховай гэтага магічнага кола сярод неадступнай цемры — у белых, доўгіх, празрыстых кашулях Барбара (І. Цішкевіч, А. Шарэпчанка) і Жыгімонт (С. Астрамовіч). Як падлеткі сярод дарослых, яны сустрэліся ў сваім недарэчным для гэтага свету каханні, якое немагчымае па паняццях роду, улады, кароны, дзяржаўных інтарэсаў, бязлітаснасці і суровасці вышэйшага свету. Спрактыкаваная ў любові Барбара аказалася безабаронным дзіцем перад магутнасцю і чысцінёй кахання, безабароннай перад падлеткавасцю і наіўнасцю Жыгімонта.

З першай жа сцэны — сустрэчы — яны прадчуваюць свой пагрозлівы Лёс. Пасля эпізода з маці-каралевай Жыгімонт да фінальных сцэн знікае са спектакля. Барацьба з лёсам — гэта цалкам справа Барбары. І Барбара гэтую схватку прайграе, патанаючы ў інтрызе Боны. Фінал жа гэтай барацьбы застаецца Жыгімонту, якому выпадае змагацца ўжо і за Барбару і за сябе. Лёс усё роўна аказваецца мацней за героя, і ў гэтай бойцы герой асуджаны, але Жыгімонт не скараецца і не знішчае сябе, — ён стаіць да канца, больш таго: смяецца над Лёсам.

Пастаноўшчык надае лірычным сцэнам мяккую пластыку рухаў. А ў фінале фіксуе кожны жэст і мізансцэну падкрэслена карцінна.

Такім чынам, на паверхні спектакля бачны — традыцыйны падыход да драматургічнага матэрыялу, падфарбаваны эстэтычна вытанчанай знаходкай яднання мінулага і сучаснага на ўзроўні Культуры, на ўзроўні дыялога паміж часамі — жывапіснай стылізацыі пpастоpавай структуры спектакля. Ісціна, Дабро і Прыгажосць у рэшце рэшт святкуюць перамогу над пошлым імкненнем да ўлады, якая аказваецца простай інваліднай каляскай з забытымі на ёй каронай і скіпетрам.

В. Баркоўскі ўвёў у мастацкую тканіну спектакля метафізічныя сімвалы і элементы, і ад гэтага прасторава-часавая структура спектакля склалася не з кантрапунктавых эпізодаў, а з выяўлення адваротнага боку плоскасці, дзе робяцца відавочнымі прычыны падзей і сапраўдная логіка сюжэтных фактаў.

Інтрадукцыя спектакля: чорная суперзаслона закрыта, аркестровая яма падсветлена празрыстым зялёна-блакітным таямнічым святлом, на рампавым бардзюры — галовы. Вочы глядзяць прама ў залу. Потым галовы пачынаюць пераварочвацца, качацца... Ідзе свой асобны пластычна-харэаграфічны сюжэт, выдзелены са спектакля, адкрэслены ад яго і нібыта яму зусім не прыналежны. Гэта не муляжы, гэта — акцёры — удзельнікі спектакля (сцэнаграфія і касцюмы С. Макаранкі).

Чорная заслона ўзнімаецца. Персанажы паднімаюцца з ямы на сцэну, запаволена рухаюцца па дыяганалях і заміраюць у паклоне перад каляскай, што выкацілася з брамы і рухаецца да адкрытай ямы. Калі там яна спыніцца, яны нібы зачараваныя пойдуць да ямы, угледзяцца ў яе глыбіню і быццам заўважаць нешта страшнае і ў жудасным жэсце імгненна адхіляцца ад таго, што "ўбачылі" там...

Маленькая Барбара (Г. Правілава) з'яўляецца раз-пораз, без усялякай сюжэтнай логікі: то ўглядаецца ў галовы ў яме; то хутка бяжыць па крузе, калі Барбара ўспамінае дзяцінства і свой даўні-далёкі, яшчэ бацькоўскі Нясвіж — то з'яўляецца побач з прывідам Барбары ў фінале і разам з ёй кліча Жыгімонта;а потым і забірае яго зусім.

Пачвара (Н. Саламаха) — хімера памяці, пацучыха сутнасці сітуацыі, матэрыялізацыі інтрыгі — уваходзіць у спектакль не адразу, аднак аднойчы ўзнікшы, неадступна назірае за ўсім, што адбываецца на сцэне, і "рэгулюе" працэс. Яна кружыць вакол Боны, яна катае каляску з атрыбутамі ўлады па ўсёй сцэне з неверагоднай хуткасцю, яна падбівае Барбару на смерць, яна рассякае магутным мячом саюз Барбары і Жыгімонта перад уяўным алтаром.

Пачвара зацягвае Бону і Барбару ў залюстарэчча.

Падобная структура робіць спектакль шматслойным. Гэтую шматслойнасць цэнтруе музычная партытура пастаноўкі (музыка А. Еранькова). Музычныя тэмы надаюць усёй пастаноўцы сімвалічна-трагедыйнае гучанне, падкрэсліваючы паняцце Наканаванне, якое ахоплівае і сціскае ўсё ў адзіную сістэму.

У віцебскім тэатры легенда пра каханне робіцца стымулам для размовы пра неадназначнасць любога чалавечага парыву, любога ўчынку, пачуцця, прагі дабрыні і пошуку ісціны. Няма ў чалавека моцы, нават у надзвычайным і вялікім каханні пераадолець сябе, спакусу, грэх. Паняцці Ісціны, Дабра і Прыгажосці — толькі спроба беднага чалавечага розуму да нечага даўмецца ў свеце і ў сабе, аказваюцца сёння поўнай ілюзіяй быцця. А чалавек паспяхова і нястрымна рвецца ў небыццё.

Спектакль коласаўцаў вымагае зразумець ці хутчэй адчуць, паспрабаваць запытацца ў сябе пра тое, наколькі наогул магчымыя гэтыя Паняцці, і дзе на самай справе яны знаходзяцца: мо там, на адваротным баку нашага існавання? З кім бярэ шлюб Чорная нявеста ўнутранага свету чалавека?

**Таццяна КАТОВІЧ**

*На здымку: Радзівіл Руды — П. Ламан, Барбара — І. Цішкевіч, Радзівіл Чорны — А. Фралоў.*

*Фота А. ХІТРОВА*

НАДЗЁННАЕ

# Праблемы — эканамічныя

18 красавіка адзначаецца з 1982 года, як сусветны дзень аховы помнікаў. Беларусь далучылася да святкавання ў 1984 г. У Нацыянальным прэс-цэнтры з нагоды гэтай падзеі прайшла прэс-канферэнцыя з удзелам старшыні Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры РБ Д. Бубноўскім і старшыні Камітэта па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў В. Абламскім.

Гутарка ішла вакол стана помнікаў Беларусі і магчымасцей іх выратавання. На сённяшні дзень ужо створана прававая база аховы помнікаў, прыняты закон аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны, распрацаваны шэраг значных падатковых ільгот для тых прыватнікаў, якія цалкам рэстаўруюць за свой кошт пэўны помнік архітэктуры.

Прадпрыемствам дадзена магчымасць аказваць і спонсарскую дапамогу ў выглядзе пералічэння трох працэнтаў ад падатку на прыбытак. На жаль, распрацаваная спонсарская сістэма яшчэ не дзейнічае, збольшага гэта абумоўлена складанасцямі нават пры звычайным афармленні дакументаў на падаткі. Шэраг жа архітэктурных аб'ектаў на сённяшні дзень ужо абсалютна законна перайшлі ў прыватную ўласнасць, адрэстаўраваны і выкарыстоўваюцца з рознымі мэтамі — жылыя дамы ў Пінску, у Мінску (напрыклад, у доме N 10 па вул. Віцебскай адчынены рэстаран "Ракаўскі бровар"), у Магілёве, вырашаецца пытанне аб перадачы дома Камуны ў Гомелі, выдатнага ўзору савецкага канструктывізму. Знайшлося і прадпрыемства, не названае на прэс-канферэнцыі, якое прапанавала цалкам адрэстаўраваць і пасля выкарыстоўваць для сваіх прадстаўнічых мэтаў Косаўскі палац Буслоўскіх. Брэсцкі аблвыканкам ужо выказаў згоду, тым больш, што разам з палацам будзе адноўлены як музей і маёнтак Касцюшкі. Узніклі складанасці юрыдычнага характару — перадача зямлі, якая аказалася размеркаванай паміж лясной гаспадаркаю, калгасам і выканкамам.

Усе гэтыя пытанні набылі актуальнасць з-за недастатковага фінансавання дзяржавы і рэстаўрацыі, і кансервацыі помнікаў архітэктуры, многія з якіх дасюль знаходзяцца ў крытычным стане. Так, у мінулым годзе фінансавання было досыць для працы на 44 аб'ектах, у тым ліку ў Свята-Прэабражэнскай царкве Еўфрасіннеўскага манастыра ў Полацку, у Благавешчанскай царкве Віцебска (дарэчы, работы там закончаны), Свята-Петрапаўлаўскай царкве ў Мінску і г.д. У гэтым годзе з запрошаных 1 мільярда 700 тысяч (недэнамінаваных) рублёў выдзелена было ўсяго 550 тысяч на рэстаўрацыю і 150 тысяч — на рамонтныя працы. І гаворка будзе ісці пра фінансаванне толькі асобных помнікаў за кошт астатніх. Вельмі важнай становіцца дапамога з мясцовага бюджэту.

**Н. Ш.**

## "Беларуская думка", N 4

Адзін з самых слынных сёння нашых празаікаў — І. Пташнікаў. Пра яго ў невялікім артыкуле "Народны па таленту" расказвае ў чацвёртым нумары часопіса "Беларуская думка" А. Марціновіч, у прыватнасці, зазначаючы: "...жанр апавядання пад пяром І. Пташнікава набыў новае дыханне. Апошнім часам ім напісаны апавяданні "Ірга каласістая", "Францужанкі", "Тры пуды жыта", якія трэба не проста чытаць, а перачытваць, бо ці не кожнае слова нясе ў іх такую важкую нагрузку, якую ў некаторых, нават прызнаных пісьменнікаў, не могуць несці нават цэлыя абзацы..." А падставай гаворкі пра Івана Мікалаевіча стала апавяданне, з якім і знаёміць чытачоў "БД": "І вось — "Пагоня..." Такога твора ў нацыянальным прыгожым пісьменстве яшчэ не было. Не буду аналізаваць апавяданне: кожны, хто пазнаёміцца з ім, зможа зрабіць гэта сам, але адно скажу: апавяданне І. Пташнікава "Пагоня" — лепшае беларускае апавяданне XX ст. А паколькі гэты жанр у літаратуры XIX ст. толькі пачынаў развівацца, дык і ўвогуле лепшае беларускае апавяданне на сённяшні дзень". І тут жа аўтар задае пытанне: "Ці аддадзена ўсё ж належнае гэтаму цудоўнаму майстру сучаснай прозы?! Талент І. Пташнікава — па-сапраўднаму народны. І па-народнаму — глыбінны. Ды і сам Іван Мікалаевіч — з тых, хто ніколі сябе ад народа не аддзяляў. І калі разважаць, хто, як ні ён, заслужыў званне народнага пісьменніка Беларусі".

Годна адчувае сябе на старонках "БД" і М. Мятліцкі: яго новыя вершы аб'яднаны ў падборцы "За край свой трывога не знае граніц...", у якой гучыць чарнобыльская тэма. Л. Лявонава ("Тэатр "Дзе-Я?" Міколы Трухана") аналізуе шлях, пройдзены адным з найбольш таленавітых сучасных беларускіх рэжысёраў. Сацыяльны нарыс на старонках беларускай перыёдыкі цікавіць у артыкуле "Самае цікавае на Зямлі — чалавек" галоўнага рэдактара газеты "Рэспубліка" С. Дубовіка. Жыве ў Глыбокім кампазітар Б. Грамакоўскі. Ён — герой нарыса А. Марціновіча "Без музыкі — як без крылаў", а "крылам, — упэўнены аўтар, — неабходна свежае паветра. Удыхнуць яго ў крылы песні Б. Грамакоўскага могуць тыя, ад каго залежыць яго далейшы творчы лёс. Верыцца, што звернуць увагу на Браніслава Браніслававіча ў Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь. Цяпер жа рэгулярна выдаюцца прэзідэнцкія гранты для падтрымання дзеячаў літаратуры і мастацтва. Чаму ж адзін з іх не выдзеліць Браніславу Грамакоўскаму?!"

У раздзеле "Момант ісціны" выступае прэзідэнт Беларускага фонду сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў "Мы — дзецям" У. Грыдзюшка ("Мы дзеці твае, Беларусь!") І поруч з рубрыкай "Творчасць маладых" змешчаны вершы вучаніцы 9 класа СШ N 42 г. Мінска Н. Шухно. Кандыдат філасофскіх навук Б. Ляпешка прапанаваў артыкул "Крышталізацыя нацыянальнай ідэі". Загадчыца філіяла "Камянецкая вежа" Брэсцкага краязнаўчага музея Г. Тарасевіч ("Высокія зоркі, вежа і... падкова на шчасце") расказвае не толькі пра гэты унікальны помнік, а і дзеліцца развагамі аб выхаванні нацыянальнай свядомасці, вяртанні сапраўднай гістарычнай памяці.

## "Мастацтва", N 3

100-годдзю з дня нараджэння У. Корш-Sабліна прысвечаны артыкул Е. Бондаравай "Ён марыў зняць цудоўнае кіно..." і ўспаміны Я. Ганкіна "Замалёўкі з натуры". "Месца дзеяння — ускраіна, двор, барак" — развагі А. Бабковай пра фільмы, паказаныя на чарговым фестывалі "Лістапад". М. Паграноўскі ("Спакой на зямлі і на нябёсах") запрашае вярнуцца на выстаўку суполкі "Аршыца", што працавала ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага саюза мастакоў у лютым 1999 года. І. Сычова ("Валенцій Ваньковіч. Лёс мастака") удакладняе асобныя моманты з біяграфіі выдатнага творцы, з дня нараджэння якога споўнілася 200 гадоў. Змешчаны артыкулы "Нотная скарбніца Нясвіжскага фарнага касцёла" С. Немагай, "Да новых жанравых утварэнняў" (беларуская харавая музыка на мяжы стагоддзяў) В. Чарняк, "Служэнне мастацтву" Л. Таіравай, рэцэнзія Т. Гаробчанкі на спектаклі "Чорная панна Нясвіжа" А. Дударава ў Беларускім тэатры імя Я. Коласа ("Каханне — ласка для абраных"). Гэты ж спектакль у Гродзенскім драматычным тэатры аналізуе У. Мальцаў ("Мроі пра каханне"), у нумары і такія матэрыялы, як "Паміж магіяй і алхіміяй — праца" М. Цыбульскага, "Падаруйце чалавеку надзею" А. Ахметшына, "Тут і цяпер" сустракаюцца з "Там і тады" Д. Кароля, "Паэзія, сінтэзаванае кіно" (кінематаграфічная вобразнасць Я. Коласа) А. Ігнацюк, заканчэнне артыкула В. Угрыновіч "Гліна набывае дух...". Ёсць "Дыскаграфія", "Хроніка мастацкага жыцця", "Старонкі календара: красавік 2000".

# У НЯДЗЕЛЬКУ ПАРАНЕНЬКУ...

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

### X

**Тураў. У невялікім, але ўтульным пакоі Міхайла Глінскі і пасол хана Менглі-Гірэя Хазей-Мірза.**

ХАЗЕЙ-МІРЗА. Хан Менглі-Гірэй не ў крыўдзе на слаўнага князя Глінскага за яго перамогу над татарамі пад Клецкам. Ён высока цэніць вайсковыя здольнасць і адвагу князя. Але вайсковае шчасце — шчасце зменлівае. Мяняюцца часы, мяняюцца абставіны, саюзнікі, як і ворагі, таксама мяняюцца. Слаўны хан Менглі-Гірэй прапануе слаўнаму князю Глінскаму быць за адно супраць Масквы і супраць Кароны і паслужыць яму, слаўнаму хану Менглі-Гірэю, за што хан абяцае пасадзіць князя на Кіеў і ўсе прылеглыя да яго землі. Яшчэ слаўны хан клянецца гонарам сцерагчы слаўнага князя ад караля Жыгімонта як свайго друга і брата.

Міхайла ГЛІНСКІ. Перадай хану, што я высока цаню яго прапановы і зраблю ўсё магчымае, каб дружба і пабрацімства нашы квітнелі на страх агульным ворагам.

ХАЗЕЙ-МІРЗА. Калі б слаўны князь хутчэй перадаў слаўнаму хану Менглі-Гірэю яго заклятага ворага хана Залатой арды Шых-Ахмета, дружба ваша і пабрацімства заквітнелі б па-сапраўднаму.

Міхайла ГЛІНСКІ. Скажы хану, што прыйдзе час і я абавязкова перадам яму Шых-Ахмета.

ХАЗЕЙ-МІРЗА. Хан Менглі-Гірэй вельмі непакоіцца, каб Шых-Ахмет не збег з вязніцы, пакуль той час прыйдзе.

Міхайла ГЛІНСКІ. Я аднолькава моцна трымаю і Шых-Ахмета, і слова рыцара.

ХАЗЕЙ-МІРЗА *(здзекліва)*. Так і скажу. І яшчэ дадам, што хлусіш ты, князь Міхайла, майму хану, бо Шых-Ахмета я толькі пазаўчора бачыў у вязніцы караля Жыгімонта.

Міхайла ГЛІНСКІ *(падкрэслена стрымана)*. Тады навошта, басурман, мне тлуміць галаву?

ХАЗЕЙ-МІРЗА. Толькі дзеля таго, каб князь ведаў, што хан будзе ведаць пра тваю хлусню.

**Міхайла Глінскі хапаецца за шаблю.**

Ханскі пасол Хазей-Мірза ведае, што князь Глінскі адсек бы яму галаву, як адсек яе ваяводзе Забярэзінскаму, каб не было ў нас у залогу галоў, дарагіх князю Глінскаму.

**Міхайла Глінскі кідае шаблю ў похву. Хазей-Мірза раскланьваецца.**

Будзь здаровы, князь! Мне пара ў Крым... *(Выходзіць.)*

Міхайла ГЛІНСКІ *(гукае)*. Хто там яшчэ? Заходзь!

**Уваходзіць разгублены і перапалоханы Ян Касцевіч.**

Ну, а ты, Ян Касцевіч, ад каго пасол?..

Ян КАСЦЕВІЧ. Вядома ж, ад каго — ад яго вялікасці караля і вялікага...

Міхайла ГЛІНСКІ *(перапыняе)*. Ад каго ж табе, халую, яшчэ быць. І не дрыжы, як цюцька. Нічога дрэннага я табе не зраблю.

Ян КАСЦЕВІЧ. Беражы цябе Бог, князь Міхайла.

Міхайла ГЛІНСКІ. Вось за гэта дзякуй... Дык што хоча Жыгімонт?

Ян КАСЦЕВІЧ. Уладар кліча і цябе, князь, і братоў тваіх да сябе, бо хоча ўсякую праўду і ўправу ўчыніць з панамі-радай і прысягу ў тым даць сваёю душою.

Міхайла ГЛІНСКІ *(амаль крычыць)*. Позна! Цяпер ужо позна... *(Зусім спакойна.)* Тым больш, што я добра ведаю вартасць каралеўскага слова. Калі б хацеў Жыгімонт учыніць управу прамую з нашымі недругамі-панамі літоўскімі, то прыслаў бы к нам не Яна Касцевіча, а Альбрэхта Гаштольда. З ім бы мы і паразумеліся, бо менавіта ён, як і я, супраць уніі Вялікага княства з Польшчай.

Ян КАСЦЕВІЧ. Не прышле кароль Гаштольда... Ды і сам ён пабаіцца ехаць...

Міхайла ГЛІНСКІ. Ты ж не пабаяўся...

Ян КАСЦЕВІЧ. Што я? Я не Гаштольд. Мне, акрамя галавы, што губляць?..

Міхайла ГЛІНСКІ. Дык пра што мне з табою гаварыць? Вяртайся, пасол, да свайго гаспадара адзін. Не па дарозе нам з табою, Ян Касцевіч, як між іншым, і з каралём тваім. Разышліся шляхі-дарогі... Разышліся...

**Ян Касцевіч кланяецца і выходзіць. Уваходзіць Міцька Губа.**

Міцька ГУБА. За пасламі не прабіцца... *(Падае руку.)* Міцька Губа — пасол гасудара ўсяе Русі Васіля свет Іванавіча. *(Садзіцца насупраць Глінскага.)*

Міхайла ГЛІНСКІ. Даўно ведаю, што Міцька. Здагадваюся, што пасол. Перадалі, што будзеш, а ты як праваліўся ў дарозе...

Міцька ГУБА. Дарога крывая, дык я да братоў тваіх заехаў. А яны там безвынікова Жытомір і Оўруч ваююць. А ты ў Тураве сядзіш...

Міхайла ГЛІНСКІ. Цябе чакаю...

Міцька ГУБА. Па мне — сядзі. Толькі не мне дамаўляцца-пагаджацца, а табе, князь, на крыжы клятву даваць...

Міхайла ГЛІНСКІ. Я, здаецца, яшчэ нічога ні ў кога не прасіў і абяцанняў не даваў, каб над імі крыж цалаваць!

Міцька ГУБА. І не варта нічога прасіць. Я сам усё прапаную ад імя гасудара свайго. Пра ўсё, што ў Княстве і Каралеўстве дзеецца, гасудар ад мяне ведае, мяне ж і да цябе прыслаў з добрым сэрцам і пажаданнямі поспеху ў святой справе.

Міхайла ГЛІНСКІ *(сурова)*. Не ведама табе мая справа, і гасудару твайму не ведама...

Міцька ГУБА. Гасудару не ведама, а мне браты твае, як на духу, адкрыліся. Так і сказалі: мэта князя Міхайлы Вялікае княства з рук Жыгімонта вырваць і стварыць з русінаў, беларусцаў і людзей зямель ускраінных асобную дзяржаву.

Міхайла ГЛІНСКІ. Дапусцім...

Міцька ГУБА. Вядома, такая дзяржава, як мне здаецца, можа, і магла б быць, але толькі пад зверхнасцю гасудара ўсяе Русі, бо дзяржава Маскоўская ніколі не адмовіцца ад свайго святога права на землі вотчынныя. Не пагодзішся служыць гасудару ўсяе Русі, будзеш мець ворагаў не толькі з Поўдня і Захаду, але і з Усходу. Такая мая асабістая думка.

Міхайла ГЛІНСКІ. А я не толькі з табою сустракацца наважыўся.

Міцька ГУБА. Ведаю. Але ж і тое ведаю, што пасля мяне да цябе ніхто з паслоў ужо не прыйдзе. А ад тых, што былі, — якая карысць. У параўнанні з Міцькам Губой — блазнота. Да Жыгімонта годны, горды і адважны князь Глінскі ніколі ўжо не вернецца. Менглі-Гірэя не ўблажыць, бо хан Шых-Ахмет, на жаль, не ў яго руках. Кіеўскую дзяржаву без княгіні Анастасіі не аднавіць. А гетман найвышэйшы Астрожскі супраць мяцежнага князя Глінскага вялікае рушэнне рыхтуе. А гэты ваяр рэдка бітвы прайграе...

Міхайла ГЛІНСКІ *(пасля доўгай паўзы)*. Нахабнік ты, Міцька Губа, якіх свет не бачыў.

Міцька ГУБА. Такая дзяржава, як мая, можа сабе дазволіць мець такіх нахабнікаў, як я.

Міхайла ГЛІНСКІ. З чым прыехаў?

Міцька ГУБА. Толькі з тым, без чаго табе, слаўны князь, не абысціся.

Міхайла ГЛІНСКІ. Табе і гэта вядома?..

Міцька ГУБА. А то як жа...

Міхайла ГЛІНСКІ. Выкладвай!..

Міцька ГУБА. Без Масковіі справу сваю не зробіш — праваслаўныя за каталікам не пойдуць, у чым ты, князь, і сёння пераконваешся. Ідзі на службу пад руку гасудара ўсяе Русі. І Жыгімонту адпомсціш, і на Маскве не апошнім будзеш. Гасудар высока ацэніць і твой розум, і тваю рызыку, і твой спрыт.

Міхайла ГЛІНСКІ. Пайду пад руку гасудара ўсяе Русі і слаўна паслужу яго вялікасці, але пры адной умове: усё, што адваюю ў Княстве, маім і будзе!

Міцька ГУБА. А гасудар мой так і сказаў: перадай слаўнаму князю Глінскаму, што я яго хачу пажалаваць і за вотчыну яго буду стаяць. Так што, бяры ў Жыгімонта, колькі зможаш...

### XI

**Вільня. Утульны пакойчык, у якім некалі любіў адпачыць за размовай і чаркай вялікі князь Аляксандр. За сталом — Жыгімонт і Астрожскі.**

Канстанцін АСТРОЖСКІ. У Тураве Глінскі сустрэўся з пасламі Васіля III, хана Менглі-Гірэя, і Малдаўскага гаспадара. Адтуль на чале 3-тысячнага войска рушыў на Мазыр. Мазыране аказалі мяцежніку боскую пашану, нібы валадару: праваслаўнае святарства і манахі выйшлі яму насустрач са святынямі.

ЖЫГІМОНТ. Неверагодна! Праваслаўныя сустракаюць каталіка сваімі святынямі... Неверагодна!

Канстанцін АСТРОЖСКІ. З Мазыра Глінскі ўзяў накірунак на Менск. Туды ж з Бабруйска рушыў з войскам маскоўскі ваявода Васіль Шамячыч. Загоны мяцежнікаў і маскоўскі полк Андрэя Трубяцкога паляць вёскі і твораць разбой пад Слуцкам, Слонімам, Клецкам, Наваградкам і нават у васьмі мілях ад Вільні, што само па сабе небяспечна для вашай вялікасці.

ЖЫГІМОНТ. Мне ўжо позна баяцца, князь... час бяздарна ўпушчаны!.. Што з Масквы? Васіль не можа не пакарыстацца здрадай Глінскага і бязладдзем у Княстве...

Канстанцін АСТРОЖСКІ. Ужо пакарыстаўся. Шпегі паведамляюць, што з Северскай зямлі да Княства рухаюцца палкі пад зверхнасцю Івана Адоеўскага ды Івана Варатынскага. З Масквы да Смаленска выступіла 60-тысячнае войска ваяводы Захар'іна. З Вялікіх Лук на Полацк рушыла ноўгарадская раць князя Данілы Шчэні.

ЖЫГІМОНТ *(вельмі занепакоена)*. Гетман, што мы маем, каб спыніць маскавітаў і даць адпор Глінскаму?..

Канстанцін АСТРОЖСКІ. Можа, не так многа, каб спадзявацца на вялікую перамогу, але дастаткова для таго, каб ворагі адчулі нашу моц.

ЖЫГІМОНТ. Відаць, невялікая наша моц, калі загоны мяцежнікаў за восем міль адсюль...

Канстанцін АСТРОЖСКІ. Ваша вялікасць недаацаніла князя Глінскага. Потым, не сакрэт, што да яго перакінуліся князі Андрэй Друцкі, Іван Казлоўскі, Васіль Мунча, Іван Азярэцкі, Дзмітрый і Васіль Жыжэмскія, Дзмітрый ды Іван Глінскія, Андрэй Дрозд з братам Пятром, Якуб Івашанцаў...

ЖЫГІМОНТ (з болем). Не пералічвай больш. Гэта для мяне не толькі крыўдна...

Канстанцін АСТРОЖСКІ. Няхай даруе міласцівы кароль...

ЖЫГІМОНТ. Я разам з табой, гетман, павяду на бой свае чатыры тысячы палякаў і, калі давядзецца, уласнай крывёю заплачу за сваю прамашку з Глінскім, якому трэба было зняць галаву, а не проста адхіляць ад усіх пасад. Што да яго аднадумцаў Альбрэхта Гаштольда, Марціна і Хведку Храптовічаў, Аляксандра Хадкевіча, Палубенскага ды іншых, я кіну іх у вязніцу, пакуль яны да Масквы не збеглі.

Канстанцін АСТРОЖСКІ. Калі ваша вялікасць хоча ведаць маю думку, то я не толькі пералічаных не чапаў бы, але і падумаў бы, як тых вярнуць, што ўжо збеглі. Гульня вартая свечак.

ЖЫГІМОНТ. Гетман лічыць гэта магчымым?..

Канстанцін АСТРОЖСКІ. Дазвольце, ваша вялікасць, займацца гетману не толькі ратнай справай...

ЖЫГІМОНТ. Хто ж супраць гэтага будзе пярэчыць?

ПЕРАКЛАДЫ

# Галасы Украіны



З ранішняй радасцю чытаў знаёмы з маленства твор, імя якому "Тарас на Парнасе", па-ўкраінску. Як бы нанова знаёміўся з тым, што жыве ў сэрцы.

Пераклаў "Тараса на Парнасе" Валерый Стралко. Вазіў на Украіну і атрымаў станоўчы водгук.

Валерый Стралко даўно жыве на Беларусі, тут пачаў далучацца да літаратуры. Ён, так бы мовіць, украінец беларускага насычэння і абуджэння. Для яго дзве мовы родныя — украінская і беларуская. У прынцыпе, я лічу, што родная мова толькі адна. Ды тут ёсць пэўнае выключэнне.

Валерый Стралко цікава перакладае беларускую паэзію на ўкраінскую, а ўкраінскую — на беларускую мову.

Праз Валерыя Стралко наша паэзія будзе гучаць на Украіне, а ўкраінскае ўзнёслае слова будзе старацца гаварыць па-беларуску.

Хочацца ад шчырага сэрца пажадаць Валерыю Стралко плёну ў пачэснай працы.

**Рыгор БАРАДУЛІН,**
**народны паэт Беларусі**

## Барыс АЛЕЙНІК

•

*О, цудаў ноч! О, жарсці абцугі! —*
*Калі любіста здольная азваціа,*
*А майскі шал — да забыцця кахацца —*
*Пакіне асцярогі берагі.*

*Усё ў чаканні: тыя ж кроплі рос,*
*Зямля і месяц, вішні і таполі.*
*І ціша ў цішы. І туман у полі,*
*І нават вуж нячутны, як данос.*

*Бо ўстане дзень і будзе правіць суд.*
*Ён міражы развее і астудзіць,*
*І павядзе нас у рабочы будзень,*
*Дзе больш дыктуе сутнасць, а не цуд.*

*Усё ў чаканні: ад зары да пня...*
*Ты не сумуй, што адшугае казка.*
*Усё ў чаканні літасцівай ласкі,*
*Бо нават ноч свайго чакае дня.*

## Леанід ГОРЛАЧ

### Роднае жыта

*Я так даўно ў жыце не ляжаў*
*і не ўглядаўся у блакіт праз жыта.*
*Жыты аднолькавыя ўсіх дзяржаў,*
*і каласкі аднолькава наліты.*

*Жыты аднолькавыя ўсіх дзяржаў,*
*Ды толькі дома запытае поле,*
*Нібыта ў сэрца каласком уколе:*
*"А ты даўно у жыце не ляжаў?"*

•

*Пашэнціла на голад і вайну,*
*на ўпаўшую дачасна сівізну.*
*Чаго ж мы дачакаемся ад лёсу,*
*як і жыццё паставяць у віну?!*

*Пашэнціла яшчэ на лебяду,*
*якую маці кідала ў яду.*
*Чаго ж такога папрасіць у лёсу*
*нам, аж па сэрца ўрослым у бяду?*

*Пашанцавала на праваднроў,*
*што ўзгадавалі шмат сірот і ўдоў.*
*Якім жа словам нам аддзячыць лёсу*
*за зганьбаваных катамі дзядоў?*

*Пашэнціла... Што дадзена было*
*спаўна адчуць спароджанае зло?!.*
*Як, сапраўды, нам лёс дастаўся гэткі,*
*то лепш бы яго зроду не было.*

•

*Нясцерпна бачыць, як народ співаецца.*
*Яму без чаркі ўжо і не спяваецца.*

*Без хмелю думы б'юцца ў галаве*
*І растаюць, нібы раса ў траве.*

*Народжаны тварыць з зярнятаў спель,*
*плыве народ калекаю у хмель.*

*І тхне зямля, і недзе на плятні*
*павісла будучыня у пятлі.*

•

*Снег, любая! Ды глянь жа — сіні снег!*
*Або глядзі ў маю душу, як хочаш.*
*І там таксама свята дзіўны след*
*ты знойдзеш, ледзь туды заглыбіш вочы.*

*Там вецер нізавы паўзе да ног,*
*нібы сабака — нават вушы вунь наставіў.*
*За хатаю у марозлівым хрустанні*
*гукае выгнуты працяжны рог.*

*Каго ўпалюем сёння? Сіні снег*
*ці, бы лісіцу, палкае каханне,*
*што праляціць праз наша парыванне,*
*толькі на міг спыніўшы пругкі бег?*

*Каго ўпалюем сёння?..*

### Развітанне

*Змалелая стаіць на шэрым снезе маці.*
*Ля веснічак старых так згорблена стаіць.*
*Над ёю ўецца дым,*
*які заўжды пры хаце,*
*ды дым, здаецца, прытаміўся ўжо дыміць.*

*Стаіць мая журбота ў чорнай куфайчыне,*
*і сівізна рассыпалася ля яе вачэй.*
*Па шчоках зморшчаных цякуць*
*слязіны шчыльна,*
*а чысты іх агонь маё чало пячэ.*

*І словы тыя грудзі рвуць мне тайна:*
*— Як добра... завітаў...*
*развітацца пара...*
*Стаю, нямею я ад развітання;*
*смыліць душа, і штось чарсцвее, бы кара.*

*Глыбокі ў маці зрок, як на старой іконе,*
*зліліся ў ім маленне, і пакора, й жаль.*
*Што ж мне зрабіць,*
*як супыніць мне коней,*
*што ў незваротную яе адносяць даль?*

*Я плачу, і стаю, туга ўсяго шурпаціць...*
*Як сцішыць боль душы,*
*ў якой жыве віна?..*
*Ля веснічак мяне так суцяшае маці,*
*бы паміраць сабраўся я, а не яна.*

•

*Перагрукоча навальніца.*
*Перазарыць зара зару.*
*Трава пад ветрам адслязіцца,*
*а я пад раніцу згару.*

*І спалымнее стэп арліны,*
*і нехта галаву схіне,*
*і ціха крылы Украіны*
*ў бязмежжа аднясуць мяне.*

## Ліна КАСТЭНКА

•

*Не трэба класці на плячо руку.*
*Дарэчным гэта можа быць у танцы.*
*Давер'е — звер пужлівы. Як ваўку,*
*яму бліжэй, мо, намараць дыстанцый.*

*Ён любіць час: хвілінам, дням цячы...*
*Ён дзіўны звер, ён любіць нават муку.*
*Ён любіць нат адлегласць і разлуку.*
*Але рукі не любіць на плячы.*

*І у садах, санатах салаўёў*
*ён чутка чуе крокі браканьера.*
*Чакае пасткі ён ад погляду, ад слоў,*
*спектакль такі яму ўжо не прэм'ера.*

*Душы людское і тайга, і зрок!*
*Ён добры звер, з ім кожны ужывецца.*
*Але не трэба зваць яго знарок.*
*Ён прыйдзе сам і ўжо не адхіснецца.*

•

*Раптоўнасці загадкавая роля...*
*Стаялі дні чаргою ні за чым.*
*Яно прыйшло — бы ўспышка,*
*бы сваволле, —*
*без права, без дазволу, без прычын.*

*О, непрытомнасць розуму і сэрца!*
*О, гэтай казкі казачны абсяг!..*
*І ні прасвету, ні краёў, ні сэнсу.*
*Ляціць душа над провай наўскасяк.*

•

*Не ведаю, пабачу Вас ці не.*
*А можа, нават, і не ў гэтым справа.*
*Галоўнае, што ў дальняй старане*
*хтось ёсць — нібы няўтоленая прага.*

*Чужое шчасце, бы нязваны госць.*
*Няхай яно, як рэха, дзесь лятае.*
*Я думаю пра Вас. Я знаю, што Вы ёсць.*
*Ужо й ад гэтага мая душа світае.*

## Міхайла ШАЎЧЭНКА

### На касе

*Асыпаецца надзея... Енчу...*
*І сцяжынку нашу занясе...*
*Як перад прачыстаю, укленчу*
*Каля гаю на глухой касе.*
*Абцалую рукі, вочы, шчокі*
*Ашалела — у апошні раз!*
*Раскажу пра боль і пра пяшчоту*
*І пачую тое ж у адказ.*
*А сцяжына кажа: у любові*
*Ў нікуды ўсё ніадкуль ідзе...*
*Ашклянелі зоркі зверабою —*
*Не сустрэцца болей нам нідзе!*
*А зара, учуўшы пал высокі,*
*Прабівае ночы змрок ліхі:*
*Разумею, мілы, тут — не ўцёкі,*
*Проста разыходзяцца шляхі...*

### Дыялог

*— Душа баліць, і не дае паныць,*
*цяжарам цяжкім ціснe на павекі...*
*— То не смяротна, як душа баліць.*
*Смяротна — як перабаліць навекі!*

**Пераклад з украінскай**
**Валерыя СТРАЛКО**

# "Краса праяўляецца ціха..."

Сярод паэтаў-украінцаў, якія жывуць у Беларусі і пішуць на роднай мове, найбольш сталы, бадай, ён, Антон Цвыд. Але добра ведаем яго, сціплага руплiўца, пакуль што толькі мы, ягоныя сябры-берасцейцы. Дзякуючы перадусім Антону Пятровічу, у нас па-ранейшаму захоўваюцца трывалыя сувязі з паэтамі-валынянамі, з якімі лістуемся, абменьваемся перакладамі, кнігамі, прэсай. Нямала перакладае і ён: Максіма Танка, Уладзіміра Жылку, Гальяша Леўчыка, Міколу Засіма, Сяргея Грахоўскага, Петруся Макаля, Міхася Рудкоўскага...

Родам Антон Цвыд з Прыбужжа, з валынскай вёскі Свіцязь, што красуецца на беразе аднайменнага возера. Пасля школы і вайсковай службы вучыўся ў Львоўскім дзяржуніверсітэце, працаваў газетчыкам, а з 1979 года жыве ў Брэсце, з'яўляецца адным з вопытных рэдактараў на абласным тэлебачанні.

Знаёмячы лімаўскага чытача з вершамі Антона Цвыда ў сваіх перакладах, спадзяюся на той час, калі ў дзяржаве ўсталююцца ўвага і павага да ўсіх, хто стварае красу вобразным словам.

**Алесь КАСКО**

## Антон ЦВЫД



### Сакавіцкі лёд

*Шкляр сакавік — зусім не шкаляр,*
*ён ані разу ў працы не схібіць.*
*Ноччу з марозу — тонкага шкла —*
*спраўна змайструе тысячы шыбін.*

*Сонцу ж паблісквацъ лепш на вадзе —*
*шкліны растопіць,*
*выдзьмухне ветрам*
*і на нішто плён майстра звядзе,*
*пырскі пасее россыпам светлым.*

*Доўгія ночы — хвіляю сны.*
*Спеюць радкі*
*ў бяссонні аб вечным,*
*цягнуцца ўгору, да губ вясны,*
*быццам да сонца ўлетку сланечнік.*

*Дзень запыняе думак палёт,*
*верш пад сумненне ставіць адразу.*
*Бы сакавіцкі плаўлены лёд,*
*слова мякчэе, цэдзіцца фраза...*

•

*Чалавек яшчэ ў калысцы,*
*а ўжо дні злятаюць лісцем*
*з дрэва лёсу, з дрэва роду —*
*без звароту...*

•

*Калі грукнула светам*
*другая сусветная,*
*сарваліся з яблынь зімовыя яблыкі*
*ў бацькавым садзе,*
*шчэ летнім і цёплым...*
*Разам з садком,*
*што вітаўся з вераснем,*
*разам з тапалямі па-над гасцінцам,*
*з бліскучым возерам,*
*падобным на падкову, —*
*разам са светам, напэўна, і я здрыгануўся*
*ў калысцы — чоўнікy, што плаваў у хаце,*
*на хвалях калыханкавых пакалыхваўся*
*і на трывалых вяроўчатых вочапках*
*трымаўся за хату, нібыта за маці...*
*А хата ліхаманкава трэслася*
*гэтак жа, як і*
*ў часе першай сусветнай,*
*а з ёй заадно — немаўлём мой бацька*
*скаланаўся, як я, у той жа калысцы,*
*калысцы старой, з летуценняй сплеценай,*
*з надзеяй матчыных на лепшую долю,*
*з бацькавых думак*
*пра хлеб і пра цішу...*

•

*З восені ўцякаць нам лёгка разам,*
*табе слугуе больш пралётны транспарт.*
*Шафёр здагадліва так шкліну працірае,*
*бо з непагадзі густа запацела,*
*і просіць падзівіцца краявідам,*
*палюбавацца танцам*
*трапяткіх імжынак*
*у восеньскім расчыненым палацы,*
*асветленым няяркімі агнямі*
*яшчэ не сцятага слатою лісця;*
*глядзець на зараселую дарогу,*
*што паміж дрэў маланкаю страляе*
*ці ніткаю снуецца ў лабірынце...*
*Ды мы не мусім памятаць дарогу,*
*бо не збіраемся вяртацца ў восень.*
*Адно на аднаго мы пазіраем моўчкі,*
*чытаем у вачах сваіх надзею*
*патрапіць у вясну — і ёю летуценім.*

•

*Згарэла восень — знічка ўпала*
*ў сады паніклыя мае.*
*Ляцяць снягі. Надзеі мала,*
*а згадка сцежку ўсё віе.*
*Зноў — да цябе, зноў — да кахання,*
*да позірку, што як вясна...*
*Але — зіма, і сум світання*
*стаіць, як цень твой, ля акна.*

нацдэмаў", беларускіх пісьменнікаў расстрэльвалі. Так загінулі С. Астрэйка, А. Вазіла, М. Гарэцкі, М. Гваздоў, Л. Калюга... Пры вас каго-небудзь асуджалі да расстрэлу?

— Асуджалі. Але, як ужо гаварыў, беларускіх пісьменнікаў у нашым лагпункце не было. Расстрэльвалі ў асноўным тых, хто спрабаваў уцячы. Я бываў на такіх судах. Паказальныя суды былі. Прама ў лагеры. Судзілі і амаль заўсёды прыгаворвалі да расстрэлу.

Ды і куды там уцякаць? Мне колькі раз прапаноўвалі. А куды бегчы? Уся Сібір у лагерах і кругом ахоўнікі. Усіх лавілі. Хаця, можа, хто-небудзь і ўцёк. Не ведаю. Помню толькі, як аднаму казаку з-пад Растова дапамагаў уцякаць (гэта яшчэ ў 1937-м годзе было). Спачатку мы хацелі ўцякаць утрох. Дык адзін з нас не вытрымаў і ўцёк сам. Не ведаю, вярнулі яго назад у лагер, ці не. Магчыма, і ўцёк. Ён працаваў у лагеры бухгалтарам. Адзенне ў яго было добрае, і грошы вадзіліся. А другі...

Я быў брыгадзірам ва Улан-Удэ. Неяк прыводзяць да мяне новага чалавека (гэта недзе ўвясну 1941 года). А ён крычыць: "Ой, Пашка, здароў!" Пабыў два дні гэты чалавек у маёй брыгадзе і гаворыць: "Давай уцякаць". Я гавару — не, Іван, я не пайду. Але табе, што трэба, дапамагу абавязкова. А калі зловяць мяне, брыгадзіра, расстраляюць.

Ноччу я дапамог яму праз зону перабрацца. Даў яму свой чамаданчык. І ён пайшоў... Потым яго злавілі. Ён расказваў, як цяжка ён ішоў трое сутак. Праз горы і лясы. Начаваць — прывязваўся на дрэва — каб паспаць крыху. На зямлі маглі звяры з'есці. Злавілі яго ўжо ў цягніку. Там аператыўнікі. Хутка заўважалі, як рэагуе чалавек. Я, гаворыць, купіў газету, чытаю, дагары нагамі трымаю. Падышлі да мяне, пытаюць: "Дакументы вашы?". Я туды-сюды, кажу: "Няма". І арыштавалі мяне...

Ён не ўмеў чытаць... Былы чыгуначнік... Неадукаванасць яго і загубіла...

Потым, калі мяне ўжо з Тайшэта прыгналі ў Краснаярск, чую крычыць нехта: "Пашка!". Гляджу, бяжыць той Іван...

У 1946 годзе, пасля вызвалення, апынуўся ў Смаленску... У Беларусь не пускалі: палітычна ненадзейны.

Потым — Смаленская вобласць. Блізка да Радзімы. Мая вёска на мяжы. Я схаваў свой пашпарт. Далі другі — гадаві. Там ужо шыфра не было і я мог уладкоўвацца працаваць. А з ранейшым ні на якую работу не бралі. З новым пашпартам уладкаваўся на працу ў школу. Настаўнічаў. Потым захварэў. Язва страўніка адкрылася.

У 1947 годзе ажаніўся на Ганне Паўлаўне, яна таксама настаўніцай была. З таго часу мы і жывём разам. Дзве дачкі нарадзіліся. Вольгаў 1948-м, Ніна ў 1951-м. У 1952 годзе пераехаў у Беларусь: Полацкая вобласць Браслаўскі раён. У Мінску не давалі працаваць. Пасылалі яшчэ ў Оршу выкладчыкам інстытута. Але не паехаў. Сказаў, што здароўе не дазваляе. А сам сабе думаў: з інстытута ўсё адно прагоняць...

...У 1955 годзе падаў прашэнне аб рэабілітацыі, бо зноў не давалі нідзе работы. Была створана спецыяльная камісія ЦК на маю справу. Дагэтуль мяне зваьняялі ўсюды, прыдумвалі ўсялякае, каб звольніць. Справа трапіла ў рукі начальніка архіўнага аддзела. Быў такі палкоўнік КДБ Пракоп Емяльянаў, мой аднакласнік. Ён гаварыў, што мяне тады моцна выручыў. Расказаў, што пра мяне ў яго пыталі... Потым у ЦК мне так і сказалі: вы можаце пра сябе не расказваць, нам пра вас ужо ўсё расказалі з самага дзяцінства. П. Емяльянаў мне дапамог у гэтых адносінах. Яго ўжо няма, памёр.

Гадоў сем назад я напісаў кніжку — "За калючым дротам". Пра свой лёс, пачынаючы з арышту. У кніжцы дзве аповесці. Адна называецца "Яжовыя рукавіцы" — гэта пра турму. Другая. "Паўночнае пекла". Выйшла "За калючым дротам" у 1993 годзе.

Цяжка мне пра гэта расказваць. У адной кніжцы расказаў, у другой... Другую цяпер не друкуюць, колькі ні б'юся... Там пра тое, як я жыў на свабодзе пасля вызвалення з канцлагера. Пад страхам увесь час. Усе свае пакуты паслялагерныя апісаў. Але выдаць яе грошай у дзяржавы няма. Няма на нас, былых вязняў ГУЛАГа, грошай...

**Гутарыў Леанід МАРАКОЎ**

правільна вымаўляць іх прозвішчы. Вядомы ў нас Валянцін Тарас прагучаў у "Аглядзе друку" як Валянцін Тара́с. Аднак дзе там гартаць! Адзіная ў рэспубліцы, салідная, цікавая, аўтарытэтная літаратурна-мастацкая газета творчай інтэлігенцыі чамусьці ўпарта і даўно, ужо некалькі гадоў ігнаруецца "Аглядам друку".

Закончу ж свае разважанні фразай з гэтай жа перадачы: **"Слухайце агляд прэсы кожны дзень, акрамя нядзелі (?), яна ДАСТАВЯ вам нямала прыемных хвілін".**

Вось такія "дзялы".

**В. МАСЛОЎСКАЯ**

УГОДКІ

# Дудка грае — ён жывы...

## 28 КРАСАВІКА — 100 ГАДОЎ З ДНЯ СМЕРЦІ Францішка БАГУШЭВІЧА

Дваццаць восьмага красавіка, старым стылем 15.IV.1900 года, у бацькоўскім фальварку Кушляны на шэсцьдзесят першай вясне завяршыў сваё жыццё слынны віленскі адвакат і першы народны пісьменнік Беларусі Францішак Багушэвіч. З тае пары мінула сто гадоў — сто гадоў вечнасці. Беларусь за гэтыя сто гадоў прайшла пакручасты гістарычны шлях. І гэты яе шлях увесь час быў падсвечаны Багушэвічавым імем, яго ідэямі. Ягоная "Дудка Беларуская" з палымянай маніфестычнай "Прадмовай" пра мову, з кароткім гістарычным нарысам пра Беларусь абудзіла ўвесь наш прысланы край, паклікала да творчасці сотні дзеячаў культуры: паэтаў, пісьменнікаў, мастакоў, музыкаў і нават дзяржаўных дзеячаў.

Францішак Багушэвіч — гэта наш Прарок Майсей. Ён разам з іншымі беларускімі прарокамі прывёў Беларусь да нашае дзяржаўнасці, да нашае незалежнасці. Свой літаратурны палетак Ён засяваў на руінах колішняга Вялікага княства Літоўскага. Яму першаму ўдалося вярнуць нашаму краю, краіне-бранчацы, і ягоны спрадвечны назоў Беларусь.

Веліч Багушэвічавай постаці адчулі яшчэ ягоныя сучаснікі. Яны адразу ж, неўзабаве пасля смерці, пачалі ўшаноўваць яго імя: усталявалі ў жупранскім касцёле мармуровую дошку з паэтавым партрэтам на медзі, на аграмадным кушлянскім валуне выбілі надпіс "Памяці Мацея Бурачка". Гэтым памяткам таксама ўжо па сто гадоў.

Літаратурны і грамадзянскі подзвіг Францішка Багушэвіча — заўсёдная загадка для ўсіх нашых літаратараў. Гэта пра яго мудры Янка Брыль напісаў:

"Радасна і дзіўна, што ён — легенда, не гістарычнае штосьці, а чалавек, які зусім паблізу жыў, памёр і пахаваны тут вось...

І здзіўленне, недаўменне, і пашана да таго, хто блізу сто гадоў таму назад упарта, як парастак паміж плітамі тратуара, пралез між дзвюма стыхіямі, рускай і польскай, насуперак усім... пралез і вырас з сваім і зрэбным, і глыбокім, па-народнаму, пахлебнаму свежым беларускім словам.

І славы не было, а толькі адчуванне абавязку".

Вось гэты абавязак і зрабіў тое, што мы цяпер маем. А маем мы вялікую гуманістычную беларускую літаратуру. І яна паўстала да жыцця найперш з клопату Францішка Багушэвіча.

Сёлетні год Таварыства беларускай мовы абвясціла годам Францішка Багушэвіча. Цікавую праграму для ўшанавання імя класіка нашай літаратуры, Вялікага Адраджэнца, прыняў і ўрад Беларусі. Ужо прайшлі вечарыны ў гонар паэта на яго радзіме — у Кушлянах і Смаргоні, Мінску, Гародні, Лідзе, навуковыя чытанні ў Акадэміі навук і Мінскім педагагічным каледжы N 1...

Францішак Багушэвіч, адчуваючы, што жыццё пакідае яго, напісаў: "Змоўклі песні тыя, што іграў на дудцы". З класікам не пагадзіўся наш сучаснік Віктар Шніп, які сказаў: "Дудка грае — Ён жывы!.." І гэтыя словы праўдзівыя. Багушэвічава дудка грае, не дае марнець народу, краіне. Багушэвічавы кніжкі ніколі не залежваліся на паліцах кнігарань ні ў мінулым стагоддзі, ні ў наш час. Творчая спадчына Францішка Багушэвіча і такіх, як Ён, гэта наш духоўны падмурак, на якім трымалася і заўсёды будзе трымацца наша Беларусь.

**Уладзімір СОДАЛЬ**



*Праект помніка Ф. Багушэвічу для Смаргоншчыны. Аўтар Л. Гумелеўскі, 1990 г.*



*Куточак гасцёўні у Кушлянскім музеі.*

*Фота А. КАЛЯДЫ.*

**СУЧАСНІКІ ПРА Ф. БАГУШЭВІЧА (З НЕКРАЛОГАЎ):**

**Шчасце сваё бачыў у любві да народа, які ведаў нядолю і замілаванасць якога да роднай зямлі і жыццёвыя прыгоды апяваў так проста і з такім майстэрствам...**

**Багушэвіча любілі за справядлівасць і спачуванне да бедных кліентаў, асабліва да сялянаў, за ўзнёслыя грамадзянскія пачуцці; яго ставілі за ўзор тым калегам за прафесіі, якім кар'ерызм засланяў разуменне справядлівасці і гуманізму, не любіў арыстакратызму багатых адвакатаў, быў прасякнуты ідэяй дабра і служэння грамадству.**

*Люцыян УЗЭМБЛА,*
*віленскі літаратар і гісторык*
*Часопіс "Век", 1900, N 164*

**Гэта быў адзін з ідэалістаў у адвакатуры, характар узнёслы, чалавек сціплы, які яднаў сэрцы сваёй вялікай сумленнасцю, непахіснасцю прынцыпаў. Усёй душою незабыўны Багушэвіч адданы быў народу, мову якога ў яе беларускай галіне ведаў грунтоўна, гутаркі, казкі і скаргі якога сардэчна пераліваў у рыфмы.**

**Люцыян УЗЭМБЛА.**
**Часопіс "Бясяда літарацка",**
**1900, N24**

**Нябожчык быў сапраўдны прадстаўнік прысяжнай адвакатуры "першага закліку", увесь прасякнуты гуманнымі паімкненнямі судовых статутаў 1864 года.**

*Мікалай РАДЗІН,*
*віленскі журналіст*
*"Северо-западное слово",*
*1900, N 507*

**Не сварыў ён, міры́ў, не раз'ядноўваў, а яднаў, схіляў багатых да ўступак, а бедных вучыў да ўдзячнасці.**

*Люцыян УЗЭМБЛА*

**Як чалавек — увасабленне высакароднасці, бязмерных маральных якасцяў, страшэнна ўражлівы на ўсякае зло. Абурала яго да глыбіні душы кожная беззаконнасць, на якую іншыя не звярталі нават увагі.**

*Зыгмунт НАГРОДСКІ,*
*Багушэвічаў віленскі прыяцель*
*"Пачынальнікі", 1972, ст. 440*

**Па-польску пісаў мала, бо хацеў пісаць перш за ўсё для народа, які жыў у яго родных мясцінах (Ашмянскі павет) і гаварыў пераважна па-беларуску...**

**Цяжкую задачу паставіў перад сабой Ф. Багушэвіч, не маючы ні адпаведных узораў, ні дастатковых крыніц. Заставалася яму адно: чэрпаць поўнай жменяй з аднай крыніцы — з народных вуснаў і здабыты матэрыял адпаведна апрацоўваць.**

*Напалеон РОЎБА,*
*віленскі публіцыст*
*"Тыгоднік ілюстраваны", 1900, N 2/3*

**"Памяць памерлага Францішка Багушэвіча ўшаноўваў глыбока і вестку пра яго смерць прыняла з сардэчнаю слязою. Быў ён адным з найвысакародных людзей, якія служылі нашай зямлі, а для мяне асабіста адным з вельмі нешматлікіх сяброў. Успаміны пра яго для мяне дарагія і самотныя"**

*Эліза АЖЭШКА*
*"Літаратура і мастацтва",*
*19 сакавіка 1960 г.*

Расціслаў БЕНЗЯРУК

# Беларускі дудар

ТРЫПЦІХ

### Вечны абаронца

Дудка грае — ён жывы!
**Віктар ШНІП**

*Дарога, лёгкай стужкаю бяжы,*
*Каб нас завесці да заходу сонца*
*Туды, дзе жыў Паэт,*
*Дзе заслужыў*
*Сабе найменне — вечны абаронца.*

*Мацею Бурачок, ты ад сялянскіх ніў.*
*Абшар палескі, цёмны і забіты,*
*Ты дудкай беларускай абудзіў*
*І даказаў: край Богам не забыты.*

*Мінае час,*
*І колькі на Парнас*
*Узлезла то пыхлівых, то ціхутkіх.*
*Прайшло сто год, як ты пайшоў ад нас.*
*Пайшоў ад нас, але іграе дудка...*

### Памаліся, бабулька...

Маліся ж, бабулька, да Бога,
Каб я панам ніколі не быў.
**Францішак БАГУШЭВІЧ.**

*Ты, бабулька, малілася многа,*
*І дайшлі твае словы да Бога,*
*Бо я панам ніколі не быў:*
*Цяжка крочыў жыццёвай дарогай,*
*Не зрабіў для народа благога,*
*Але й славы сабе не здабыў.*

*Сёння ў чэргі пасталі па славу*
*Шмат паноў і падпанкаў,*
*хто правіў,*
*Хто бяздушна абкрадваў народ,*
*Хто адрокся ад роднае мовы,*
*Праўду хто падмяніў пустасловуем, —*
*І вялікі, і дробненькі зброд.*

*З імі мне не было па дарозе.*
*Калі раптам прылягу ў знямозе*
*Ці прыдушаць бяда і прымус,*
*Я не стану прасіць больш нічога:*
*— Памаліся, бабулька, да Бога*
*За мяне і маю Беларусь!*

### Слова роднае

"Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!.."
**Францішак БАГУШЭВІЧ**

*Ці не памёрла наша памяць?*
*Калі жывее, чаму ж тады*
*Слоў чужародных злая замець*
*Зноў аддаляе на гады*
*Нас ад таго, што ёсць Айчына,*
*Дзе мілы кут, адкуль твой род,*
*Дзе нам забыцца немагчыма,*
*Пра беларусаў — той народ,*
*Што ў працы не прывык лайдачыць*
*І край умела бараніў...*
*Тут разумееш, што ты значыш,*
*Якія маеш карані...*
*Між двух народаў ці не зблудзіш —*
*Ні расіянін, ні паляк?*
*Вось слова роднае забудзеш,*
*Як будзеш жыць?*
*Скажы мне, як?..*

# Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа

**АБ'ЯЎЛЯЕ ПРЫЁМ навучэнцаў на 1 курс (8 клас) і ДАДАТКОВЫ ПРЫЁМ на вакантныя месцы на 2 курс (9 клас)**

У ліцэі на паглыбленым узроўні вывучаюцца літаратура, гісторыя, родная і замежная мовы, іншыя дысцыпліны.

У ліцэй прымаюцца на конкурснай аснове навучэнцы, якія паспяхова скончылі 7(8) класаў. Інтэрната ліцэй не мае.

Навучанне бясплатнае. Асноўная мова навучання — беларуская.

Выпускнікі ліцэя карыстаюцца льготамі пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі.

Абітурыенты павінны прадставіць у камісію наступныя дакументы: асабістую заяву, медыцынскую даведку (форма 286), завераны пячаткай табель паспяховасці за 7(8) клас.

*Дакументы прымаюцца па 26 мая (табель паспяховасці — 27—28 мая) па адрасе: 220050, г. Мінск, вул. Кірава, 21, пакой сакратара. Тэлефоны для даведак: 226-10-73, 227-32-77.*

# Беларуская мова — наша будучыня

Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па наданні роднай мове рэальнага статуса дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ — справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

*Просім вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Мінск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ N 3015212330014 у Мінскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).*

# Пачэсны пасад між народамі...

З 2 чэрвеня па 17 ліпеня 2000 г. на мяжы стагоддзяў адбудзецца адна з самых значных грамадскіх і культурных падзей, якая прымеркавана да сустрэчы новага тысячагоддзя, — міжнародны праект "Літаратурны экспрэс Еўропа-2000". Акцыя пройдзе пад патранажам Еўрапейскай рады, Еўрапейскай камісіі, ЮНЕСКА і Міжнароднага саюза чыгункі UIC.

100 літаратараў з 43 краін Еўропы накіруюцца ў шасцітыднёвую паездку па маршруце легендарнага Паўночна-паўднёвага экспрэса. У 20-ці гарадах маршруту "Літаратурны экспрэс" зробіць прыпынкі, каб у рамках публічных чытанняў, дыскусій і культурных святаў абмеркаваць праблемы і перспектывы агульнаеўрапейскай будучыні, моўную і культурную разнастайнасць Еўропы.

Па рашэнні Саюза беларускіх пісьменнікаў нашу краіну будуць рэпрэзентаваць Вольга Іпатава, Леанід Дранько-Майсюк, Андрэй Федарэнка.

Напярэдадні гэтага унікальнага праекта Дзяржаўны Літаратурны музей Янкі Купалы ладзіць сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі — удзельнікамі "Літаратурнага экспрэса":

***Леанідам Дранько-Майсюком — 4 траўня, Вольгай ІПАТАВАЙ — 22 траўня.***

***Даведкі па тэл. 227-78-66.***

**Дзіяна КАВАЛЕВІЧ,**
**ст. навуковы супрацоўнік музея Янкі Купалы**



## Увага! Конкурс для падпісчыкаў «Чырвонай змены»!

## Абітурыент журфака-2000

*Вы здольныя, таленавітыя, магчыма, нават геніяльныя? Вы спрабуеце запісваць свае думкі на паперы, спадзеючыся, што такім чынам яны стануць больш даступнымі для сучаснікаў або нават для нашчадкаў? Вы неабыякавыя да ўсяго, што адбываецца на вашай лесвічнай пляцоўцы, у вашым двары, мікрараёне, вёсцы, горадзе, краіне? Вам хацелася б змяніць свет да лепшага, прымусіць яго спачуваць дзіцяці, якое плача, і адзінокаму старому?*

*У такім выпадку вы — патэнцыяльны ўдзельнік творчага конкурсу, арганізаванага факультэтам журналістыкі Белдзяржуніверсітэта і рэдакцыяй беларускай маладзёжнай газеты «Чырвоная змена». Мэта конкурсу — пошук таленавітай моладзі, схільнай да прафесійнай журналісцкай дзейнасці.*

### Палажэнне
аб творчым конкурсе факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта і рэдакцыі газеты
### «Чырвоная змена»

Творчы конкурс праводзіцца з 1 чэрвеня 1999 года па 30 мая 2000 года.

У конкурсе могуць прыняць удзел вучні выпускных (11-х) класаў сярэдніх школ, ліцэяў, гімназій рэспублікі, а таксама юнакі і дзяўчаты з сярэдняй адукацыяй, якія цікавяцца журналістыкай і збіраюцца паступаць на журфак у 2000 годзе.

Творчы конкурс праводзіцца ў чатыры туры:

***I тур*** — чэрвень—верасень (вынікі падводзяцца ў кастрычніку);
***II тур*** — кастрычнік—снежань (вынікі падводзяцца ў студзені);
***III тур*** — студзень—сакавік (вынікі падводзяцца ў красавіку);
***IV тур*** — красавік—май (вынікі падводзяцца ў чэрвені).

Пры ацэнцы творчых работ удзельнікаў конкурсу ўлічваецца:

— раскрыццё прапанавай тэмы на аснове аналізу з'яў духоўна-маральнага, сацыяльна-эканамічнага, палітычнага жыцця грамадства;

— сістэмнасць, паслядоўнасць, лагічнасць у выкладанні галоўнай думкі твора, наяўнасць аргументаваных высноў і абагульненняў;

— выразная мова твора, разнастайнасць слоўніка, стылістычнае адзінства, яркасць і вобразнасць тэксту (адсутнасць моўных штампаў);

— арыгінальнасць, творчая індывідуальнасць, інтэлектуальны патэнцыял аўтара.

Пераможца творчага конкурсу вызначаецца спецыяльнай камісіяй факультэта журналістыкі і рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» паводле вынікаў творчых работ, выкананых па заданнях чатырох тураў конкурсу. Пераможцы кожнага асобнага тура атрымліваюць пэўную колькасць балаў (ад 0,5 да 3-х).

Пераможца творчага конкурсу факультэта журналістыкі БДУ і рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» ўзнагароджваецца Ганаровай граматай газеты і бібліятэчкай.

Галоўнай узнагародай для пераможцы конкурсу з'яўляецца льгота пры паступленні на факультэт журналістыкі БДУ ў 2000 годзе: за пісьмовы экзамен «творчае сачыненне» (выстаўляюцца дзве адзнакі — за змест, глыбіню і паўнату раскрыцця тэмы; за пісьменнасць) пераможца конкурсу аўтаматычна атрымлівае адзнаку «пяць-пяць».

**IV (і апошні) тур: «Чалавек — гэта гучыць...»**

**Неабходна раскрыць адну з наступных тэм:**

1. «Простая наука — услышать друг друга».
2. Ідалы ці ідэалы?
3. У жыцці яшчэ ёсць месца подзвігу.
4. Герой нашага часу. Хто ён?

**Пра што пісаць?**

Пра сэнс жыцця, пра сваё месца ў гэтым жыцці. Пра тое, што ў ім хацелася б змяніць... Пра мары, мэты і спадзяванні. Пра ўзаемаадносіны паміж людзьмі.

Хто вы? Адкуль? Навошта прыйшлі ў гэты свет? Нам цікава, да чаго вы імкняцеся, якім кумірам пакланяецеся, што лічыце вартым сваёй увагі і міма чаго праходзіце раўнадушна? Якія якасці ў чалавеку цэніце? Якія каштоўнасці без ваганняў возьмеце з сабой у XXI стагоддзе?

Чакаем цікавых і арыгінальных артыкулаў!

**Папярэджваем, што ў гэтым туры прымаюцца да разгляду толькі тыя работы, якія будуць напісаны на беларускай мове..**

**Удзельнічаць у конкурсе можна пачынаць з любога этапа!**

Аб'ём творчых работ — не больш за 5 лістоў (10 старонак) школьнага сшытка. Дасылайце іх на наш адрас:

**220013, г. Мінск, вул. Б.Хмяльніцкага, 10а, рэдакцыя газеты «Чырвоная змена», з паметкай «Абітурыент журфака-2000».**

У конкурсе ўдзельнічаюць работы, надрукаваныя на старонках «Чырвонай змены».

З нецярпеннем чакаем пісьмаў ад нашых юных падпісчыкаў!

Кантактныя тэлефоны: **268-25-93, 268-29-45.**




**ЭКРАН**

**Беларускае тэлебачанне**

*8 траўня*, панядзелак, 10.25 — **"Ваенны альбом"**. Аздоблены вершамі беларускіх паэтаў тэлерасказ пра франтавую сувязістку Насту Варапаеву.

*12.50* — **"Святло таленту"**, традыцыйная перадача памяці да дня Радаўніцы. Гэтым разам узгадаюць пайшоўшых ад нас беларускіх акцёраў У. Палякова, Р. Філіпава, І. Камарова, Я. Шыпілу, Ю. Ступакова, У. Куляшова, В. Філатава, Ю. Авяр'янава, А. Аржылоўскага, П. Дубашынскага.

*19.55* — **"Купалаўцы: погляд праз час. Ваенныя дарогі"**, перадача пра франтавыя канцэрты і спектаклі Купалаўскага тэатра. Узгадвае тыя гады і падзеі артыстка Алена Рынковіч.

*9 траўня, аўторак, 19.30* — **"Паэтычныя навелы"** да 55-годдзя Перамогі. Прагучаць урыўкі з паэм А. Вярцінскага "Рэквіем па кожным чацвёртым" і Р. Барадуліна "Блакада".

*10 траўня, серада, 16.40* — **"Ніколі не забудзем"**, перадача пра лёс паэта-франтавіка, палітрука П. Прыходзьку.

*11 траўня, чацвер, 14.20* — напярэдадні саракавін з дня смерці акцёра Паўла Дубашынскага паказ тэлевізійнага спектакля "Следчы эксперымент" паводле п'есы В. Ткачова.

*13 траўня, субота, 9.20* — **"Кнігазбор"** з расповедамі пра падпольны друк у гады вайны і пра кнігу-ўспамін дзяцей блакаднага Ленінграда.

*14 траўня, нядзеля, 10.40* — **"Беларускі дом"**, пра ваенна-гістарычны музей Баграціёна ў Ваўкавыску раскажа ягоная дырэктарка Алена Ерашэвіч; пра тое, як праходзіць Радаўніца ў чарнобыльскай зоне, у вёсках Друнькі і Тульганавічы; пра мясцовых літаратараў-франтавікоў распавядзе дырэктар філіяла Літаратурнага музея ў вёсцы Плябань Маладзечанскага раёна Святлана Паркалава.

**КАНЦЭРТЫ**

Дзіўна прайшла на мінулым тыдні ў к/з "Мінск" прэзентацыя кампакт-дыска і аўдыёкасеты "Вольныя танцы: Новая альтэрнатыва". Прысутнай на канцэрце пераважна маладзёжнай публіцы міліцэйскія ўніформы на працягу дзвюх гадзін не давалі ўзняцца з крэслаў і проста патанцаваць. Такія вось "вольныя танцы"!

А сам альбом "Вольныя танцы: Новая альтэрнатыва" — гэта працяг першага зборніка альтэрнатыўнай беларускай музыкі "Вольныя танцы: Слухай сваё!", выдадзенага летась Беларускай музычнай альтэрнатывай. Мэтай гэтай арганізацыі з'яўляецца папулярызацыя сярод моладзі сучаснай беларускай музычнай культуры, аказанне падтрымкі пачынаючым і вядомым музычным калектывам. "На рахунку" БМА ўжо правядзенне некалькіх дзесяткаў канцэртаў, выданне серыі аўдыёкасет і зборнікаў тэкстаў з акордамі беларускіх гуртоў, стварэнне старонак нашых рок-гуртоў у Інтэрнэце, распаўсюджанне беларускай музыкі на радыёстанцыях, у тым ліку і па замежных...

Падумалася вось: а ці будуць нашыя праваахоўнікі старанна ўсаджваць народ на бліжэйшых канцэртах расейскіх рок-гуртоў.

*3 і 13 траўня* — у к/з "Мінск" выступяць "Нуль", а потым — "Чыж".

*26 траўня* — у гэтай жа зале будзе граць і дурноцішца наш "Нейра дзюбель". Дарэчы, музыкі працуюць зараз над сваёй першай беларускамоўнай песняй, таму 26-га можа адбыцца і ейная прэм'ера.

**Вядучы "Суфлёра"**
**Кірыла ПАЗНЯК**

**ЗАПРАШАЕМ!**

Калі вы хочаце, каб ваша дзіця вучылася ў добрай беларускай школе ў цэнтры горада з выкладаннем англійскай мовы з 1 класа, тэлефануйце: **284-85-11 (10.00—19.00), 283-24-10 (20.00—22.00).**

# ПАРОДЫІ

## Павел САКОВІЧ

### Блізарукасць

На даху пакраплены мох.
Стрыжы
не стамляюцца сноўдаць.
...Дэталяў разгледзець не змог.
Вось так у асноўным.

**Юрка ГОЛУБ**

*На даху пакраплены мох.*
*Стрыжы мітусяцца бясконца.*
*Шчэ божых каровак я мог*
*Разгледзець на шыбе ваконца.*

*А там — павуцінка ў кутку.*
*На ёй ледзьве мушка трапеча.*
*Патрапіць яна павуку...*
*Цвіркун вунь схаваўся за печкай.*

*Пачухаў за вухам мой дог —*
*Блыха пачала па ім сноўдаць...*
*Дэталяў разгледзець не змог,*
*А толькі вось так, у асноўным.*

### Вампір-плагіятар

Я ведаю. Я ў карты прагуляны
зайздроснымі паэтамі. Малю,
калі заб'еце —
не смакчыце з раны
барвовую паэзію маю.

**Анатоль СЫС**

*Хоць я паэт, а што нажыў?*
*Мне ганарараў плоцяць мала.*
*Дый вершаў тых не шмат стварыў,*
*А вось зайздроснікаў — навалам!*

*Такі ў мяне зайздросны лёс:*
*Паэт, прамоўца дужа знаны*
*І ў картах шчэ спрактыкаваны,*
*А вось жа крыўдна аж да слёз —*
*У карты й быў я прагуляны.*

*Відаць, мяне хтось "заказаў".*
*Хто? Плагіятар, змей паганы,*
*Хто верш, бы кроў,*
*з мяне смактаў...*
*Злуе, што мала я пісаў:*
*Не шмат ён вып'е з маёй раны!*

### Грашыў, грашу і яшчэ змагу!

На белы снег
ноч цень наводзіць.
Грашыць — не грэх,
калі па згодзе.
...Тым, з кім грашыў,
прыносіў шчасце.

Без крыўды ўсе
гадуюць дзетак.
Так пакрысе
і стану дзедам.

**Анатоль ЗЭКАЎ**

*Каб не пляткарылі*
*пасля ў народзе,*
*грашу з юнацтва я*
*заўжды па згодзе.*

*Там-сям з'явіліся*
*той згоды сведкі:*
*ў граху зачатыя*
*малыя дзеткі.*

*Пайшлі ўжо новыя*
*наступствы следам:*
*відаць, зрабіўся я*
*шматкратна! — дзедам.*

*Ад думкі гэтае*
*я проста млею...*
*Мо і цяпер яшчэ*
*зграшыць сумею?*


ЛіМ — Літаратура і мастацтва. Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
Саюз беларускіх пісьменнікаў;
рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-8204 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва, ахова помнікаў — | 284-8462 |
| навін — | 284-8462 |
| мастацкага афармлення — | 284-8204 |
| фотакарэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 27.04.2000 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 2145

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12